

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 6(77) Чэрвень 2000 June Год выд. 8.


## БЫЛОГА ПРЭМ'ЕРА БЕЛАРУСІ — МІХАСЯ ЧЫГІРА ЗАСУДЗІЛІ...

Судзьдзя Аляксандар Васілевіч зачытаў прысуд у якім прыгаварваецца зьняволіць экс-прэм'ера Міхася Чыгіра на тры гады з адтэрміноўкаю на два гады.

Акрамя трох гадоў зьняволеньня з адтэрміноўкаю, суд пастанавіў спагнаць з М. Чыгіра 209 мільёнаў рублёў кампэнсацыі (больш за 200 тысяч даляраў).

Пасол ЗША ў Беларусі Д. Спэкгард сказаў пра гэтую падзею, што пастанова суду пацьвярджае, што гэта палітычна матываванае шоў, каб перашкодзіць М. Чыгіру ўдзельнічаць у палітыцы, у апазыцыі да цяперашняга ўраду...

Гэтыя пакараньні М. Чыгір лічыць незаконнымі і зьбіраецца абскардзіць іх у Вярхоўным судзе Беларусі.



Экс-прэм'ер Беларусі М. Чыгір засуджаны...

Кансультатыўна-назіральная група АБСЕ ў Беларусі выступіла **23 траўня** з заявай, у якой асудзіла "неапраўданы вэрдыкт" у адносінах да былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра.

"Кансультатыўна-назіральная група выявіла шэраг парушэньняў беларускіх законаў, што былі дапушчаны падчас дасудовага расьледаваньня і падчас самога слуханьня, аб чым беларуская ўлады былі належным чынам праінфармаваныя, - гаворыцца ў заяве. - Парушэньне законаў краіны зноў прадстаўляе судовую ўладу Рэспублікі Беларусь у негатыўным сьвятле як на нацыянальным, так і на міжнародным ўзроўні".

Прадстаўнікі КНГ АБСЕ лічаць, што прысуд М.Чыгіру скіраваны на тое, каб "нейтралізаваць палітычны патэнцыял былога прэм'ер-міністра ў крытычны для краіны момант". "Вынесены прысуд ставіць пад сумнеў гатоўнасць афіцыйных уладаў стварыць у рэспубліцы абстаноўку міра і даверу ў інтарэсах маючых адбыцца парляменцкіх і прэзыдэнцкіх выбараў", - адзначаецца ў заяве.

КНГ АБСЕ заклікала перагледзець прысуд былому прэм'еру, каб "паспрыяць аднаўленьню незалежнасьці і даверу да беларускай судовай улады".

## ІНТЭРВІЮ З КАНГРЭСМЭНАМ СЭМАМ ГЕЙДЭНСАНАМ

***Кангрэсмэн Сэм Гейдэнсан, ініцыятар рэзалюцыі Кангрэсу ЗША ў справах Беларусі, даў інтэрвію спадару А. Лукашыку. Падаем яго поўную вэрсію.***

**(Лукашук:)** "Сп. Гейдэнсан, наколькі я ведаю, Вы ўжо пазнаёміліся з прынятай нядаўна афіцыйнай рэзалюцыяй беларускай "палаты прадстаўнікоў" ў адказ на пастанову Кангрэсу ЗША. Апроч іншага, Злучаныя Штаты былі абвінавачаныя ва ўмяшальніцтве ва ўнутраныя праблемы Беларусі. Што Вы думаеце наконт гэтага закіду?"

**(Гейдэнсан:)** "Я лічу, што любы грамадзянін мае абавязак выступаць кожнага разу, калі бачыць несправядлівасьць – няважна, у Беларусі ці дзе яшчэ ў сьвеце. Амэрыканскія кангрэсмэны, грамадзяне Амэрыкі, заўсёды выступалі за свабоду, за правы чалавека і за дэмакратычныя інстытуты. Гэта цалкам адпавядае прыродзе амэрыканскага Кангрэсу.

Апроч таго, відавочна, што ў Беларусі ў заняпадзе дэмакратычны працэс, эканоміка ў заняпадзе. І ня проста ЗША і адзін кангрэсмэн – літаральна ўсе сябры Кангрэсу падтрымалі рэзалюцыю. Зь ёй пагадзіліся эўрапейскія ўрады. У Беларусі зьніклі людзі, закрываюць газэты, прыватныя дабрачынныя арганізацыі – так сябе дэмакратычнае грамадзтва не паводзіць. Факты гавораць за сябя, і я ня думаю, што спроба беларускага боку нешта абвергнуць можа каго-небудзь падмануць".

**(Лукашук:)** "Учора Вы ў Вашынгтоне правялі паседжаньне "круглага стала" у справе Беларусі, у якім, наколькі я ведаю, узялі удзел больш за сорак палітыкаў, урадоўцаў, актывістаў няўрадавых арганізацыяў. Раскажыце, калі ласка, пра акалічнасьці гэтага абмеркаваньня".

**(Гейдэнсан:)** "Шчыра кажучы, я быў моцна ўражаны такім шырокім удзелам. Вашынгтон вельмі заняты горад, перад усімі шмат праблемаў, якія тычацца ўсяго зямнога шару. У нас былі прадстаўнікі ўсіх структураў амэрыканскага ураду, сьпікер Палаты Прадстаўнікоў Кангрэсу, прадстаўнікі арганізацыяў, якія працуюць дзеля разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці і дэмакратычных інстытутаў і спрабуюць дапамагчы Беларусі вярнуцца ў сям'ю народаў, якія паважаюць правы чалавека ды індывідуальную свабоду".

**(Лукашук:)** "Расейска-беларуская інтэграцыя таксама была адной з тэмаў учарашняга "круглага стала" ў Вашынгтоне. У Менску ўчора, выступаючы перад студэнтамі Белдзяржунівэрсытэту, амбасадар ЗША Дэніэл Спэкгард сказаў, што галоўныя праблемы Беларусі палягаюць у самой краіне, а не па-за ейнымі межамі, і схарактарызаваў тую частку рэзалюцыі Кангрэсу, дзе вядзецца пра ролю Расеі ў беларускіх праблемах, як "правакацыйную". Сп. Гэйдэнсан, як Вы можаце пракамэнтаваць ацэнку амбасадара Спэкгарда?"

**(Гейдэнсан:)** "Я напэўна пагаджаюся з амбасадарам і таксама лічу, што фундамэнтальныя праблемы Беларусі маюць беларускае паходжаньне, гэта нутраныя праблемы, ня вонкавыя. Рэзалюцыя мела на мэце засьцерагчы расейцаў ад падтрымкі рэжыму сп. Лукашэнкі. Відавочна, у былым Савецкім Саюзе існуе вялікая патрэба ў разьвіцьці дэмакратычных інстытутаў. Мы не хацелі правакаваць Расею, нашай мэтай было дамагчыся, каб Расея дзейнічала разам зь іншымі дэмакратычнымі дзяржавамі. Сёньня Расея відавочна нашмат больш дэмакратычная дзяржава, чымся ў мінулым, нашмат больш дэмакратычная, чым сытуацыя ў Беларусі. Ніхто ня выступіў з такім асуджэньнем расейскіх выбараў, як з асуджэньнем лукашэнкавых. Ніхто не асуджае расейскі дэмакратычны працэс – ён не дасканалы, у сьвеце ўвогуле няма дасканалага працэсу, у тым ліку ў ЗША. Але на фоне усіх выбараў у сьвеце, сытуацыя ў Беларусі сапраўды ўнікальная, шмат у якіх дачыненьнях найменш легітымная".

**(Лукашук:)** "Прэзыдэнт Біл Клінтан сустракаецца з прэзыдэнтам Владзімірам Пуціным у ліпені. Рэзалюцыя Кангрэсу патрабуе ад адміністрацыі ЗША ўзьдзейнічаць на Расею дзеля вырашэньня беларускага палітычнага крызісу. Ці будзе Клінтан, на Вашую думку, гаварыць з Пуціным пра Беларусь?"

**(Гейдэнсан:)** "Я думаю, існуе агульны кансэнсус адносна таго, што прэзыдэнту Клінтану належыць разам з Пуціным зрабіць сумеснае намаганьне, каб аднавіць дэмакратычныя рэформы ў Беларусі. Народ Беларусі вельмі моцна пацярпеў пад час 2-й Усясьветнай вайны і за савецкім кіраваньнем і цяпер мае права на стварэньне свабоднага і дэмакратычнага грамадзтва, якое будзе гарантаваць дабрабыт. Але мы бачым, што сп. Лукашэнка спрабуе падарваць дэмакратычны працэс, запалохвае прэсу, закрывае арганізацыі, якія спрабуюць дапамагчы людзям палепшыць іх жыцьцё".

**(Лукашук:)** "Ці плянуеце Вы суправаджаць прэзыдэнта Клінтана ў ягоным візыце ў Расею?"

**(Гейдэнсан:)** "Я пакуль ня склаў свой расклад, але незалежна ад таго, хто будзе суправаджаць прэзыдэнта ў гэтай паездцы, мы будзем працягваць ціск, каб у Беларусі адбыліся свабодныя і справядлівыя выбары, каб разьвівалася грамадзянская супольнасьць, каб дабрабыт звычайнага беларуса палепшыўся.

Інтэрвію вёў А. Лукашук.
RFE/RL

## КАНГРЭС БЕЛАРУСІСТАЎ у МЕНСКУ

У Менску ў Нацыянальнай Акадэміі Навук прайшоў 3-ці міжнародны кангрэс беларусістаў. Прысутнічала на ім 270 спэцыялістаў з 11 краінаў сьвету. Выступаючы на адкрыцьці кангрэсу, прэзыдэнт міжнароднай асацыяцыі беларусістаў прафэсар Адам Мальдзіс зазначыў, што беларусісты сьвету высакародна і самаадана служаць "каралеве Беларусі".

BELARUSIAN DIGEST
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Беларускі рэфэрэндум — Пірава перамога мясцовай намэнклятуры

Артыкул, пачаты ў 1995-м і скончаны ў 2000-м

Спробы рабіць масавае апытаньне насельніцтва маюць вельмі даўнюю традыцыю. Іх вытокі ў Беларусі сягаюць у часы Полацкага веча, калі грамадзяне гораду на сваіх сходах вырашалі найбольш важныя пытаньні, у тым ліку запрашалі альбо адпраўлялі ў адстаўку сваіх князёў. Мы ня ведаем «парлямэнцкіх працэдур» працы Полацкага веча, аднак гісторыя сьведчыць, што наўгародцы на сваім вечы часам вырашалі свае спрэчкі крыкам і лямантам. Чые прыхільнікі грамчэй крыкнуць, той і пераможа.

Рэфэрэндум, які пяць гадоў таму адбыўся ў Беларусі, чымсьці нагадваў наўгародзкую традыцыю: у СМІ, і асабліва на тэлебачаньні, панавала думка А.Лукашэнкі і яго каманды.

Асаблівую папулярнасьць сярод прыхільнікаў прэзыдэнцкай ідэі набыў сумнавядомы фільм Азаронка, які паказалі нават двойчы. А вось калі Павал Шарамет у сваім «Праспэкце» захацеў даць слова гісторыку ў абарону дзяржаўнай сымболікі, гэты сюжэт выкінулі, неўзабаве зьнікла і сама тэлеперадача.

Закон аб рэфэрэндуме, прыняты Вярхоўным Саветам Беларусі пад ціскам апазыцыі, забараняў выносіць на рэфэрэндум пытаньні, якія парушаюць «дзяржаўныя гарантыі існаваньня беларускай нацыянальнай культуры і мовы».

Аб гэтым дакладна сказаў у сваім выступе 23 сакавіка 1995 г. на сэсіі Вярхоўнага Савету Беларусі пад час абмеркаваньня рэфэрэндуму тагачасны старшыня Камісіі па заканадаўстве Дзьмітры Булахаў. Ён даў заключэньне, што пытаньні, зьвязаныя зь дзьвюхмоўем і магчымасьцю роспуску ВС з ініцыятывы Прэзыдэнта, ня могуць выносіцца на рэфэрэндум, бо гэта забараняецца дзейным заканадаўствам і гэта ж вынікае з артыкулу 148 дзейнай Канстытуцыі.

Пытаньне, зьвязанае з новай дзяржаўнай сымболікай, не было сфармулявана ў выглядзе абавязковай нормы права і магло, на думку Булахава, мець толькі кансультацыйны характар.

Трэцяе пытаньне — пра эканамічную інтэграцыю з Расеяй — утрымлівала адзнаку дзеяньняў службовай асобы (Прэзыдэнта) і таксама не магло быць нормай права, што неабходна ў выпадку абавязковага рэфэрэндуму. Таму яно таксама можа быць толькі кансультацыйным.

Пасьля таго, як выступ Булахава быў раскрытыкаваны Прэзыдэнтам і яго прыхільнікамі ў ВС, Дз.Булахаў сказаў: «Самыя добрыя мэты нельга дасягаць спосабамі, якія сумнеўныя з пункту гледжаньня права. Ніводная мэта ў такой сытуацыі ня будзе дасягнутая. Той, хто пасеяў вецер, пажне ў выніку навальніцу».

Далей падзеі разгортваліся наступным чынам. Пасьля доўгага абмеркаваньня 10 красавіка 1995 г. пытаньне аб правядзеньні рэфэрэндуму, зь перавагай толькі ў 7 галасоў, пасьля паймennага галасаваньня, было прынятае за аснову. Назаўтра, раніцай 11 красавіка, дэпутаты парлямэнцкай апазыцыі БНФ у знак пратэсту супраць антызаконнасьці абвясьцілі галадоўку і далей у абмеркаваньні і галасаваньнях удзелу ня бралі. Ніл Гілевіч заклікаў дэпутатаў усімі сьвятымі не галасаваць за пытаньне, зьвязанае са статусам беларускае мовы. Генадзь Карпенка заклікаў сумленных дэпутатаў ня ўдзельнічаць у гэтай ганьбе і пакінуць залю паседжаньняў.

Першым галасавалася пытаньне, зьвязанае зь лёсам беларускае мовы. Зарэгістравалася 238 дэпутатаў. «За» прагаласавалі (пры кворуме для прыняцьця рашэньня 152) толькі 124 дэпутаты, і пытаньне з трэскам правалілася.

Другім галасавалі пытаньне па сымболіцы. «За» прагаласавала паймення 150 чалавек, але двух галасоў забракла, і пытаньне таксама не прайшло.

Пасьля гэтага Лукашэнка заявіў, зьвяртаючыся да ВС, што «далейшае Вашае галасаваньне ніякага сэнсу ня мае, бо Вы разбурылі цэлы комплекс пытаньняў, якія я ўнёс на галасаваньне».

За трэцяе пытаньне — пра эканамічную інтэграцыю з Расеяй — прагаласавала 180 дэпутатаў, і яно прайшло.

Чацьвертае пытаньне набрала толькі 86 галасоў.

12 красавіка ў 3 гадзіны і 30 хвілін дэпутаты апазыцыі былі зьбітыя і гвалтам выкінутыя з залі парлямэнту вялікай групай бандытаў у чорных масках і са зброяй у руках. Пасьля гэтага дэмакратыя ў Беларусі спыніла сваё існаваньне, і далей ішоў ужо заканадаўчы фарс.

Большасьць дэпутатаў сабралася ў залю ВС 12 красавіка толькі а 12-й. Бо раней іх проста не пускалі ў пакой людзі Прэзыдэнта. Разгублены Мечыслаў Грыб спрабаваў весьці паседжаньне, як быццам бы ўначы нічога страшнага не адбылося. Аднак знайшоўся мужны дэпутат, былы афіцэр міліцыі Ігар Пырх, які ўпершыню паставіў пытаньне аб імпічмэнце Прызыдэнта за ягоныя дзеяньні. Пасьля гэтага М. Грыб аб'явіў перапынак і пабег раіцца да Прэзыдэнта.

Пасьля перамоваў усе 4 пытаньні, вынесеныя на рэфэрэндум, былі зацьверджаныя. Аднак і тут атрымалася чарговае грубае парушэньне Закону. У працэсе абмеркаваньня Прэзыдэнт распаўсюдзіў у ВС каляровыя выявы новага сьцяга і герба Беларусі. Пры гэтым 23 сакавіка ў парлямэнце ён распавядаў, што над новай сымболікай доўгі час працавалі юрысты і геральдысты, што праекты вельмі дасканалыя, «адзінае, што вось гэтая верхняя частка, дзе была зорка на гэтым гербе, каласы будуць крышачку бліжэй ссунуты, каб не было такой вялікай плямы. Усё. Адзіная магчымая папраўка ў сувязі з гэтым».

Але калі выбарцы 14 траўня прыйшлі галасаваць, яны ўбачылі зусім іншы новы сьцяг і новы герб – сьцяг ужо стаў з зорачкай у навершшы, а герб з зорачкай зьверху і абрысамі Беларусі на фоне зямной кулі. Такім чынам, толькі гэтыя парушэньні дазваляюць не прызнаваць вынікі рэфэрэндуму.

Змаганьне зь дзяржаўнай сымболікай узору 1991 году пачалося яшчэ пад час правядзеньня агітацыі за рэфэрэндум. У якасьці прыкладу можна прывесьці ананімную ўлётку, надрукаваную шматтысячным накладам і развезеную на выбарчыя ўчасткі, у якой дзяржаўная сымболіка Беларусі называлася «позорной». Прычым у Віцебскай вобласьці яе раздавалі выбарцам нават у дзень галасаваньня.

Тым ня менш, большасьць жыхароў Беларусі адмовілася ад зьмены спрадвечных нацыянальных сымбаляў беларускага народу і за прапанову Прэзыдэнта прагаласавала толькі 3.622.851 чалавек, што складае менш паловы ўсіх выбарцаў, унесеных у сьпісы для галасаваньня. «Новую» сымболіку не падтрымала 59,3%. За беларускую мову як дзяржаўную выказаліся 52,5% дарослага насельніцтва Беларусі.

Значна лепшая сытуацыя была ў Менску, дзе магчымасьць падтасоўкі вынікаў рэфэрэндуму была меншая, чым на вёсцы. Я прапаную азнаёміцца паважаным чытачам з вынікамі галасаваньня ў Менску. Гэтыя зьвесткі друкуюцца ў поўным выглядзе ўпершыню.

Улады і зараз добра разумеюць штучнасьць сваёй сымболікі. Іх герб ужо даўно зьнік з паштовых марак Беларусі, а на грашовых купюрах так і не зьявіўся. І гэта не выпадкова. Народ не зьмірыўся з навязанай яму сымболікай. Ужо 27 ліпеня 1995 году на Дзень незалежнасьці Беларусі ў горадзе Лёзна на Віцебшчыне легендарны Мірон узьняў на 40-мэтровым коміне райбыткамбінату бел-чырвона-белы сьцяг і пакінуў побач зь ім запіску: «Вярніце народу гістарычную памяць».

І яна неўзабаве вернецца. Апошні 40-тысячны Чарнобыльскі Шлях, аздоблены нацыянальнай сымболікай, добрае таму пацьверджаньне.

**Алег Трусаў**, старшыня ТБМ імя Ф.Скарыны.

# Японцы размаўляюць па-беларуску, а ў Беларусі няма грошай на кангрэс беларусазнаўцаў

Для правядзеньня форуму, на які зьехаліся папулярызатары Беларусі з 11-ці краін сьвету, беларуская дзяржава зь цяжкасьцю й толькі ў апошнім момант наскрэбла грошы. "Наш Кангрэс праходзіць вельмі й вельмі сьціпла", – канстатуе прэзыдэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, прафэсар Адам Мальдзіс. Ён наракае на адсутнасьць айчынных мэцэнатаў, з інтэлігенцкай тактоўнасьцю зазначаючы, што браць ад дзяржавы вялікія сродкі асацыяцыя беларусістаў ня мае маральнага права.

У адным з даўно не рамантаваных карпусоў Нацыянальнай акадэміі навук, на вуліцы Сурганава, 1, пры ўваходзе вісіць надпіс – вітаньне ўдзельнікам III міжнароднага кангрэсу беларусістаў. У самім вышынным будынку будгнічна, і толькі інфармацыйныя аркушы на дзьвярох, дзе зьбіраюцца ўдзельнікі, даюць зразумець – на розных паверхах тут і ў некалькіх пакоях у доме насупраць зьбіраюцца больш як дзьве з паловаю сотні папулярызатараў Беларусі з 11-ці краін сьвету. Толькі ў панядзелак, калі Кангрэс рапачаўся, удалося зьняць арганізацыйныя пытаньні – беларуская дзяржава зь вялікай цяжкасьцю змагла знайсьці грошы на беларускі навуковы форум. Праходзіць ён сьціпла – госьці Кангрэсу гавораць, што 9 год назад, у 91-м, калі стваралася Міжнародная асацыяцыя беларусістаў і адбыўся І-шы Кангрэс, у беларускіх уладаў было больш беларускіх прыярытэтаў.

Прэзыдэнт асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс, камэнтуючы арганізацыйныя праблемы, наракаў на бяздарнасьць айчыннага Міністэрства прадпрымальніцтва й інвэстыцыяў, а таксама на нежаданьне бізнэсовых структур дапамагчы ў фінансаваньні Кангрэсу. Дарэчы, найбольшыя праблемы былі з прыездам удзельнікаў з Расеі, Украіны й Баўгарыі – да апошняга моманту беларускі бок ня меў сродкаў на аплату іхнай дарогі ў Беларусь.

Грошы на Расію й Украіну выдзелілі, але мяне як грамадзяніна Беларусі маральна й, можа, фізычна забіла тая фраза, якая была сказана супрацоўніцай Міністэрства фінансаў, якая сказала мне на пытаньне, калі будуць грошы: "Если в Министерстве финансов завтра будут деньги, мы их перечислим". Вы разумееце, пра што гэта гаво-рыць – гэта гаворыць, што Міністэрства фінансаў у нас, на жаль, ня мае грошай. Значыць, мне трошкі сорамна, што мы зьвярнуліся да ўрадавых структур з просьбай пра дапамогу.

Ролю мэцэнатаў, лічыць прафэсар Мальдзіс, павінныя ў нас выконваць тыя шматлікія магутныя канцэрны, якія працуюць на тэрыторыі Беларусі. "Яны ўкладаюць, – гаворыць спадар Мальдзіс, – у розныя базары й іншыя разьвясёлыя шоў, але гэта не духоўная страва, гэта ўсё толькі для ног, але не для сэрца". Зрэшты, прыватныя фінансісты для Кангрэсу ўсё ж знайшліся. У прыватнасьці, князь Андрэй Цеханавецкі – жывучы ў Вялікабрытаніі, ён ведае, што ягоныя продкі паходзілі зь Беларусі. Цяпер Міжнародная асацыяцыя беларусістаў спадзяецца атрымаць фінанса-ваньне і ад ЮНЭСКА – тады будзе магчымым правядзеньне другой, восеньскай, сэсіі III Кангрэсу. Яе тэма – "Беларуская культура ў дыялёгу цывілізацыяў".

"Наша культура дае добры прыклад сапраўднай культурнай інтэграцыі, нам вельмі важна паказаць сьвету, як у нашай культурнай

(Далей на 12-ай бач.)

С. ШАРЭЦКІ
Старшыня Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь

# БЕЛАРУСЬ: ЯКОЙ МЫ ЯЕ БАЧЫМ

Як вядома, 20 ліпеня мінулага году скончыўся тэрмін прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі. А ўжо 1-га сьнежня 1999 году супраць яго рэжыму, які захапіў уладу неканстытуцыйным шляхам, генэральны пракурор Беларусі ўзбудзіў крымінальную справу і цяпер вядзецца сьледзтва.

Але сам Лукашэнка тэрмін свайго прэзыдэнцтва стаў адлічваць з часу правядзеньня так званага рэфэрэндуму 1996 году, хоць гэта ня



можа лічыцца законным. Па-першае, ніякага рэфэрэндуму тады не праводзілася, а адбыўся звычайны дзяржаўны пераварот. Бо тое мерапрыемства, якое праводзілася ў лістападзе названага году, зьдзяйсьнялася з дапамогай пастаўленых на плошчах гораду Менску для запалохваньня людзей бронемашын, некалькі дзесяткаў аўтаматчыкаў, якія на працягу двух тыдняў нікога не прапускалі ў будынак Цэнтральнай выбарчай камісіі, старшыню якой Віктара Ганчара Лукашэнка зьняў сваім указам, хоць, згодна Канстытуцыі, і ня меў права гэтага рабіць. Яшчэ задоўга да таго былі манапалізаваныя прэзыдэнцкімі структурамі ўсе сродкі масавай інфармацыі. Бюлетэні для галасаваньня друкаваліся і развозіліся на выбарчыя ўчасткі супрацоўнікамі з прэзыдэнцкіх структур без ведама выбарчых камісіяў. Само галасаваньне цягнулася два тыдні. Зафіксавана і простая фальсыфікацыя яго вынікаў. Менавіта ўказаныя факты грубых парушэньняў Канстытуцыі і заканадаўства краіны ў час правядзеньня ўказанага рэфэрэндуму і сталі падставай таго, што міжнародныя арганізацыі і парлямэнты цывілізаваных дэмакратычных дзяржаў не прызналі яго легітымным.

Па-другое, нельга прамыя выбары падмяняць ніякім рэфэрэндумам, нават калі-б ён і быў легітымным. Рабіць так — гэта азначае жульнічаць, чым і займаўся напрыклад, Адольф Гітлер, які правёў пяць рэфэрэндумаў і ўсе выйграў і якога той-жа Лукашэнка лічыць узорам для сябе.

Такім чынам, дамову з Расеяй у сьнежні мінулага году падпісваў ужо нелегітымны кіраўнік дзяржавы, якога ніхто, акрамя самой Расеі, не прызнае. Мы, і я ў тым ліку, некалькі разоў заяўлялі, што падпісаныя пасьля 20 ліпеня дакументы, дамовы зьяўляюцца нелегітымнымі і пры ўсталяваньні дэмакратычнай улады ў Беларусі ня будуць прымацца пад увагу.

Самае жахлівае, што натварыў за гады свайго кіраваньня створаны дыктатарам рэжым, дык гэта тое, што самую Беларусь ён імкнецца разбеларусіць, вызваліць ад беларусаў. Ужо цяпер усе ключавыя пасады, у тым ліку і старшыні, ва ўрадзе займаюць расейцы, прычым не народжаныя ў Беларусі, а прыехаўшыя з Расеі. Большасьць з іх — гэта вайскоўцы і супрацоўнікі спэцслужбаў. Скажам, намесьнікам Старшыні ўраду, які наглядае за культурай, навукай і асьветай Беларусі, зьяўляецца палкоўнік Замяталін, таксама выхадзец з Расеі. Вось ён і вымеў са сталіцы краіны ўсе беларускія школы, засталіся толькі асобныя клясы ў некаторых школах. На чале міністэрства абароны Беларусі стаіць расейскі генэрал. Міністэрства замежных спраў узначальвае палкоўнік ФСБ, таксама выхадзец з Расеі.

Калі ацэньваць створаны Лукашэнкам рэжым адным сказам, дык можна сказаць, што сёньня гэта антыканстытуцыйная і акупацыйная для беларускага народу структура, якая груба парушае правы грамадзян Беларусі і сама ўгразла ў карупцыі.

Таму я і лічу, што ўсе гэтыя перамовы, на якія пайшоў Лукашэнка толькі пасьля таго 20 ліпеня мінулага году і на якія пагадзіліся апазыцыйныя яго рэжыму сілы, не дадуць станоўчых вынікаў ужо нават таму, што гэты-ж рэжым іх і зрывае.

Яму патрэбна імітацыя перамоў, каб неяк адцягнуць увагу сусьветнай грамадзкасьці ад сваёй нелегітымнасьці, а не сапраўдныя перамовы па правядзеньню дэмакратычных выбараў у органы ўлады. Рэжым добра ведае, што яго беларускі народ ужо ня можа далей цярпець і гэта паказалі апошнія дэманстрацыі апазыцыйных яму сілаў, таму ніколі ня пойдзе на доступ да сродкаў масавай інфармацыі для ўсіх палітычных сілаў у краіне. Для яго — гэта сьмерць. Але і бяз гэтага ня можа адбыцца ніякіх свабодных і дэмакратычных выбараў. А калі іх не адбудзецца, дык Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь XIII скліканьня, згодна Канстытуцыі, працягне сваю работу далей.

Ды і наогул, пры тых функцыях, якімі надзяліў Лукашэнка так званую сваю Палату, у выбарах няма ніякага сэнсу. Гэтая Палата нават ня мае права заканадаўчай ініцыятывы. Па сваіх функцыях яна нагадвае фашыстоўскі савет, які калісьці дзейнічаў пры дыктатуры Мусаліні.

Калі пачынаеш думаць аб усім тым, што зрабіў з Беларусьсю і яе працалюбівым народам дыктатарскі прарасейскі рэжым Лукашэнкі, дык міжволі ўзьнікае пытаньне: “А навошта ён самой Расеі, калі яна сапраўды хоча стаць цывілізаванай дэмакратычнай краінай?” Няўжо расейскія палітыкі, якія час ад часу так многа гавораць аб дэмакратыі ў сваёй краіне, не разумеюць, што вось гэткі рэжым адштурхоўвае беларусаў ад Расеі. Яшчэ зусім нядаўна беларускі народ адносіўся да расейцаў з даверам і нават з павагай. Але цяпер, пасьля таго, што зроблена за апошні пэрыяд расейскімі палітыкамі, пачынаючы ад прыезду Строева, Селязьнёва і Чарнамырдзіна і заканчваючы наступленьнем на яго сьвятыні і іх апаганьваньнем, і перш за ўсё мовы, супрацьпаставіла расейцаў беларусам. Беларусы пачалі глядзець на расейцаў, як на прыгнятальнікаў, якія зноў хочуць зрабіць Беларусь сваёй калёніяй, якой яна была ў царскі і савецкі пэрыяды. З-за пагрозы таго-ж рэжыму мне даводзіцца жыць цяпер у Вільні — горадзе, у якім на плошчы Лукішкі быў павешаны выдатны сын беларускага народу Кастусь Каліноўскі. Гэтая постаць сёньня для беларускіх патрыётаў зьяўляецца сімвалам мужнасьці ў барацьбе за незалежнасьць сваёй Радзімы. Здзейсьненае ў тыя далёкія гады злачынства рэжымам расейца М. Мураўёва, які ўвайшоў у беларускую гісторыю як вешальнік, падтрымлівалася нават такімі расейскімі дэмакратамі, як М. Някрасаў. І толькі А. Герцан у сваім “Колоколе” ды М. Бакунін асуджалі разбой, які ўчынілі тады ў Беларусі, Літве ды Польшчы пасланцы Расеі.

На сумленьні пасланцоў Масквы і беларускія “Курапаты”, дзе ў гады сталінскіх рэпрэсіяў былі расстраляныя многія і многія ні ў чым невінаватыя грамадзяне колішняй БССР і наогул да К. Мазурава кампартыя Беларусі ўзначальвалася толькі пасланцамі з Масквы.

Сёньня зноў Расею захлынула хваля шавінізму. Сьведчаньнем таму зьяўляюцца нават аб'явы расейскіх фірмаў, якія рэклямуюць свае тавары на тэрыторыі “ад Брэста да Находкі”. А некаторыя расейскія тэледыктары Беларусь называюць ужо не самастойнай краінай, а расейскім калідорам у Эўропу. Многія расейскія палітыкі ненавідзяць таго-ж Лукашэнку і ведаюць пра здзейсьненыя яго рэжымам злачынствы супраць беларускага народу, але працягваюць падтрымліваць дыктатара толькі таму, што ва ўгоду сваім уладалюбівым амбіцыям і расейскім шавіністам ён імкнецца ліквідаваць дзяржаўны сувэрэнітэт Беларусі і далучыць апошнюю да Расеі. Справа засталася толькі за цаною. Лукашэнку трэба Крэмль — ня больш, але і ня менш. Нават і пасьля таго, як у Расеі абраны новы прэзыдэнт, ён не выкідае са сваёй галавы вось гэтай цемрашальскай думкі.

Расейскія палітыкі і інтэлігенты павінны задумацца дзе сёньня жыве вядомы ў сьвеце беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў. Чаму ён ня можа жыць на Радзіме, за свабоду якой ваяваў? І чаму ён аддаў перавагу не Расеі, а Нямеччыне, супраць якой ён ваяваў? Ды і старшыня Саюзу пісьменьнікаў Беларусі Ўладзімір Някляеў таксама вымушаны быў пакінуць Радзіму. А колькі іх вучоных, бізнэсмэнаў і проста беларусаў — выехалі за гэтыя гады ў Канаду, Аўстралію, Польшчу і іншыя краіны? Прычынай гэтага зьяўляецца той факт, што рэжым не дазваляе на Радзіме свабодна жыць і працаваць.

Зразумела, як і ўсе дыктатарскія рэжымы, так і лукашызм будзе на звалцы гісторыі. І якім шляхам гэта будзе зроблена, таксама больш залежыць ад членаў існуючага ўраду і іншых дзяржаўных чыноўнікаў, якія павінны ў рэшце рэшт зразумець, што цярпеньне народу хутка скончыцца. І гэта яскрава паказала дэманстрацыя ў Менску, якая адбылася 26-га красавіка бягучага году. Справа толькі ў часе. Таму міжволі ўзьнікае пытаньне: “Якой будзе Беларусь заўтра?” Калі і на гэтае пытаньне адказаць коратка, дык натуральна, што яна павінна быць незалежнай дэмакратычнай краінаю і заняць свой пачэсны пасад сярод іншых цывілізаваных дзяржаў Эўропы, быць надзейнай і прадказальнай суседкай для акружаючых яе дзяржаў. Вядома, што дэмакратычны лад можа быць пабудаваны толькі на падмурку рынкавай шматукладнай эканомікі. Пры гэтым нельга выпускаць з-пад увагі і тую бяду, якая коратка завецца “Чарнобыль”. Сама палітычная сыстэма павінна грунтавацца на многапартыйнасьці, але пры гэтым не павінны дзейнічаць партыі экстрэміцкага кшталту, а таксама тыя, што выступаюць за ліквідацыю сувэрэнітэту сваёй дзяржавы. Вельмі шмат чаго патрэбна будзе зрабіць і ў галіне культуры, бо за гады ўваходжаньня Беларусі ў склад Расейскай імпэрыі і Савецкага саюзу ды і ў час панаваньня сёньняшняга дыктатарскага рэжыму было зроблена вельмі шмат чаго па наступу на самую беларускасьць. Гэта ўсё яскрава бачна па тому загону, у якім сёньня апынулася беларуская мова, па нацыянальным складзе ўраду і дзяржаўных служачых, назвах гарадзкіх вуліц і плошчаў, існуючых музэяў і колькасьці помнікаў беларускім нацыянальным героям, палітычным і грамадзкім дзеячам.

Беларусі трэба вярнуць яе нацыянальны твар. Безумоўна, што дзяржаўнай мовай павінна быць адзіная — беларуская. Неабходна вярнуць у якасьці дзяржаўнай і нацыянальную сымволіку. Трэба падняць значасьць былых гістарычных беларускіх цэнтраў: Полацка, Турава, Наваградка і іншых і ўстанавіць навуковую аб'ектыўнасьць гісторыі краіны. Пры ўезьдзе ў сталіцу і іншыя населеныя пункты (гарады, мястэчкі і вёскі) павінна адчувацца беларускасьць у назвах іх вуліц, плошчаў і ўстаноўленых там помніках. Мабыць, трэба будзе падумаць і аб рэлігійных канфэсіях, якія таксама павінны служыць свайму народу і абараняць незалежнасьць яго дзяржавы. Але, зразумела, што зрабіць гэта можна толькі пры тым урадзе, які будзе адпавядаць запавету слыннага сына Беларусі Кастуся Каліноўскага: “Не народ для ўраду, а ўрад для народу”. А стварыць такі ўрад можа толькі легітымны, дзеючы і прызнаны сусьветнымі арганізацыямі (АБСЕ, Савет Эўропы, а таксама кіраўнікамі парлямэнтаў цывілізаваных краін сьвету) адзіным заканадаўчым і вышэйшым прадстаўнічым органам на тэрыторыі Беларусі Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, вакол якога і патрэбна сёньня аб'яднацца ўсім дэмакратычным сілам для хутчэйшага пазбаўленьня нашай Радзімы ад цяпер ужо антыканстытуцыйнага прарасейскага дыктатарскага рэжыму і вяртаньня яе на дэмакратычны шлях разьвіцьця.

11 траўня, 2000

# Распрацаваны праект мемарыялу ў Курапатах

**Завершаная праца над праектам мемарыяла памяці ахвярам сталінскіх рэпрэсіяў у Беларусі, які плануецца пабудаваць ва ўрочышчы Курапаты ў наваколлі Мінска. Пра гэта паведаміў кіраўнік грамадскага аб'яднання "Хрысціянская злучнасць «Курапаты» Вацлаў Нямковіч.**

Як вядома, у 1937-1941 гадах у Курапатах рэпрэсіўныя органы савецкага таталітарнага рэжыму знішчылі дзесяткі тысяч ні ў чым не вінаватых людзей. Паводле словаў В.Нямковіча, на тэрыторыі Курапатаў, якая складае 21 гектар, знаходзіцца 585 месцаў пахаванняў. Больш за сто магілаў былі па-варварску знішчаныя ў пасьляваенны перыяд; многія з іх зьніклі ў сувязі з пракладкай газапровода на цэнтральнай алеі ўрочышча.

Праект мемарыяла прадугледжвае захаванне існуючых месцаў пахаванняў, алеяў і сцяжынак. Над кожнай брацкай магілай плануецца ўстанавіць памятны знак у выглядзе драўлянага крыжа. Прычым, паводле словаў В.Нямковіча, прадстаўнікі Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы прапаноўвалі ўстанавіць шасьціканцовы крыж Ефрасінні Полацкай, а вернікі рымска-каталіцкай царквы — чатырохканцовы крыж, падобны таму, на якім быў распяты Ісус Хрыстос. Распрацоўшчыкі праекта прынялі другую прапанову. Мемарыял будзе заключаны ў мастацкую агароджу, а на ўваходзе і выхадзе плануецца пабудаваць дзве аркі. Уздоўж галоўнай алеі будуць устаноўленыя памятныя знакі ў гонар кожнага вядомага месца Беларусі, дзе ў гады сталінскіх рэпрэсіяў праводзіліся масавыя зьнішчэнні людзей, а таксама ў памяць вядомых беларускіх рэлігійных і культурных дзеячаў, закатаваных рэжымам.

На тэрыторыі, што прылягае да мемарыяла, плануецца пабудаваць праваслаўную царкву і каталіцкі касцёл.

Марат ГАРАВЫ – "Наша Свабода"



# У ноч з 13 на 14 траўня Малады Фронт

правеў акцыю "Горад наш!" у Менску й некалькіх гарадох Беларусі. Акцыя была прымеркаваная да ўгодкаў рэферэндума 1995 -га года, на якім была забаронена беларуская нацыянальная сымболіка., паведаміла прэсавая слудба МФ.

У Менску вадзіцеляў, якія выяжджалі ў маскоўскім кірунку, з раніцы 14 траўня на прашпэкце Скарыны сустракаў вялізны бел-чырвона-булы сьцяг. Некалькі палотнішчаў лунаклі й на дарозе ў Эўропу, на берасьцейскім напрамку, у Паўднёвым Захадзе. Аграмаднае палотнішча 2 на 4 мэтры было вывешанае на вуліцы Пляханава, а яшчэ адно на вуліцы Гараўца (Серабранка). Каля дзесяці сьцягоў былі вывешаныя ўвечары 13-га траўня ў мікрараёнах Малінаўкі

Магілеве дзень 14 траўня 2000 года надоўга запомніцца гарадскім уладам. Увесь горад быў размаляваны надпісамі й бел-чырвона-белымі выявамі. Самы вялікі малюнак сьцягу быў зроблены на буйным мосьце цераз Дняпро. 3 палотнішчы зьявілася вышынных гмахах Кастрычніцкага раёну.

У Барысаве вялікі бел-чырвона-белы сьцяг аказаўся насупраць вокнаў мясцовага гарвыканкама. Да сьцяга было прымацаванае пасланьне: "Нягледзячы на ўсе рэфэрэндумы й забароны, нацыянальная сымболіка будзе жыць, бо жыве Беларусь".

У Віцебску на самай вялікай плошчы горада быў вывешанае бел-чырвона-белае палотніча. На адной з цэнтральных віцебскіх вуліцаў нацыянальныя сьцягі былі ўзьнятыя над самымі высокімі й віднымі будынкамі.

У Коханаве бел-чырвона-белыя сьцягі былі вывешаныя на дроце на цэнтральнай плошчы.

# ... і калі афіцыйныя ўлады Берасьця

*на галоўнай плошчы гораду ладзілі мерапрыемствы з нагоды так званага сьвята дзяржаўнага сьцягу і гербу, у вядомай усім крэпасьці лунаілі бел-чорвона-белыя сьцягі. Сьведкамі гэтай падзеі былі многія берасьцейцы і госьці гораду, што наведалі ўчора крэпасьць.*

Мясцовыя прыхільнікі нацыянальнага адраджэньня ўжо не ўпершыню за апошнія гады спрабуюць прыцягнуць увагу грамадзкасьці да ганебных вынікаў травеньскага рэфэрэндуму 95 году. Дзяля гэтага ў Берасьці адбываюцца акцыі самага рознага кшталту.

На гэты раз сумную гадавіну рэфэрэндуму у горадзе вырашылі адзначыць не пікетам альбо вечарынай, а вывешваньнем нацыянальных сьцягоў. Цікава, што напярэдадні 14-га траўня па беларускім тэлебачаньні прайшоў сюжэт берасьцейскіх карэспандэнтаў, у якім выказвалася крытыка на адрас кіраўніцтва мемарыяльнага комплексу "Брэсцкая крэпасьць-герой", маўляў, нават у дні вялікіх сьвятаў над крэпасьцю ня знойдзеш выяваў сымболікі, што была падтрыманая на рэфэрэндуме ў 95-м годзе.

І вось быццам бы прыслухаўшыся да парадаў прадстаўнікоў афіцыйных мас-медыяў, у нядзелю над крэпасьцю зьявіліся сьцягі, але зусім ня тыя, аб якіх марыла мясцовая вертыкаль. Прыкладна а 12 гадзіне над галоўным уваходам у мэмарыяльны комплекс, так званай "Зоркай", залунаў бел-чырвона-белы сьцяг. Паколькі ў гэты дзень крэпасьць наведалі шмат берасьцейцаў і турыстычных групаў з Польшчы, Расеі ды іншых краінаў, гэтая падзея не засталася не заўважанай.

Сымбаль нацыянальнага адраджэньня Беларусі заставаўся над крэпасьцю больш за дзьве гадзіны. Аналягічны бел-чырвона-белы сьцяг быў вывешаны і над яшчэ адным ўваходам у крэпасьць, над паўночнай брамай.

Адказнасьць за тое, што адбылося, ўзяў на сябе мясцовы жыхар, які назваўся Міронам.

У адрозьненьне ад Берасьця, у іншым раённым цэнтры вобласьці – Бярозе, з нагоды пятых угодкаў рэфэрэндуму, сябры мясцовых суполак БНФ ды іншых грамадзкіх аб'яднаньняў і палітычных партыяў, падалі заяўку ў райвыканкам на правядзеньне 14-га траўня пікету ў падтрымку гістарычнай нацыянальнай сымболікі – беларускай мовы і стварэньня ў краіне нацыянальнага ўнівэрсітэту. Акрамя таго, пад час пікету, плянавалася весьці збор подпісаў супраць спробаў ліквідацыі незалежнасьці Беларусі і адкрыць выставу навінак беларускага кнігадруку і незалежнай прэсы.

Райвыканкам адмовіў у правядзеньні гэтага пікету ў цэнтры Бярозы, дазволіўшы сабрацца толькі на гарадзкім стадыёне і ў іншы час, чым гэта плянавалі арганізатары акцыі. Акрамя таго, вертыкаль выставіла ўмовы, згодна зь якой пад час пікету забаранялася зьбіраць подпісы і праводзіць выставу, а таксама распаўсюджваць інфармацыйныя матэрыялы. Паколькі гэтае рашэньне райвыканкаму было атрымана толькі напярэдадні 14 траўня, арганізатары пікету вырашылі адмовіцца ад правядзеньня сваёй акцыі.

Ня выключана, што згаданае рашэньне бярозаўскае вертыкалі будзе абскарджана ў судовым парадку.

(RFE/RL) Алег Супрунюк,

# Кампанія "Форд Мотар"

**12 траўня** афіцыйна заявіла аб спыненні вытворчасці аўтамабіляў на заводзе СП "Форд-Юніён" пад Менскам. "Са шчырым шкадаваньнем мы мусім абвясьціць аб спыненьні вытворчасьці мадэляў Escort і Transit на нашым заводзе ў Абчаку", - сказаў Алан Баці, прэзыдэнт "Форд Мотар Кампані" ў Расеі і СНД.

Гэтае рашэнне прынятае кіраўніцтвам кампаніі з прычыны безпэрспэктыўнасьці, недастатковага попыту на рынку ў параўнаньні з існуючымі вытворчымі магутнасьцямі, што азначае, на жаль, немагчымасьць апраўдаць дадатковыя інвэстыцыі, якія спатрэбіліся б для вытворчасьці новых мадэляў замест выпускаемых Escort і Transit.

# Заява

## сакратарыяту ТБМ аб дыскрымінацыі беларускай мовы ў войску

10 гадоў мінула з моманту прыняцця Закону аб мовах. Беларусь стала незалежнай дзяржавай, але беларуская мова цалкам ігнаруецца ў беларускім войску. Вайсковая прысяга на вернасць Радзіме прымаецца навабранцамі на мове суседняй дзяржавы. У беларускім войску адсутнічаюць статуты на роднай мове. Вайсковая падрыхтоўка і ўся выхаваўчая праца вядзецца выключна па-руску, у беларускім войску не гучыць беларуская вайсковая песня. Адзіная вайсковая газета "Во славу Родины" таксама рускамоўная. Паколькі бальшыня нашых хлопцаў набіраецца ў войска з невялікіх гарадоў і вёсак, дзе ў паўсядзённым жыцці дамінуе беларуская мова, лічым непрымальным стан рэчаў, калі падчас вайсковай службы яны падвяргаюцца дыскрымінацыі па моўнай прыкмеце.

У сувязі з гэтым Таварыства беларускай мовы патрабуе ад Ураду Рэспублікі Беларусь зрабіць наступнае:

- Стварыць у кожнай вайсковай частцы беларускамоўныя батальёны, для кіравання імі падабраць афіцэраў, якія валодаюць беларускай мовай у аб'ёме, неабходным для правядзення выхаваўчай працы і вайсковай падрыхтоўкі.
- Перакласці на беларускую мову вайсковыя статуты.
- Забяспечыць усе вайсковыя часткі тэкстам прысягі на беларускай мове, і ўрачыстасці з нагоды прыняцця навабранцамі прысягі на вернасць Радзіме праводзіць на мове тытульнай нацыі нашай краіны.
- Узнавіць курсы беларускай мовы для афіцэрскага складу.
- Надаць газеце "Во славу Родины" статус дзвюхмоўнай і прадугледзець, каб не менш за 50% матэрыялаў друкавалася па-беларуску.

**Сакратарыят ТБМ**
**Менск**
**4 траўня 2000 г.**

# «Беларускія Песняры» ў Смаргоні

СМАРГОНЬ. "Беларускія Песняры" выступілі з канцэртнай праграмай у ДК Смаргоні. Гледачы настолькі былі захопленыя галасамі і песнямі артыстаў, што выходзілі ў фае і куплялі кветкі для сваіх куміраў. Залу падаграваў і вядучы праграмы Аляксандр Кацікаў, які жыў раней на Астравеччыне. У складзе групы выступаў наш зямляк – Аляксандр Салаўёў са Смаргоні. Прагучалі песні на музыку Дайнекі і вершы Казловіча. "Белая Русь", "Александрына", "Белавежская пушча", "Рэчанька", "Касіў Ясь канюшыну" ўзрывалі залу. Пасля канцэрта гледачы паўставалі з месцаў і доўгі час апладзіравалі беларускаму ансамблю, ніхто з удзельнікаў якога не застаўся без вялізнага букета кветак.

Іван ШПАЛАЎ.



# Амерыканскія госці

**16 траўня Слонім наведала кіраўнік грамадзкай арганізацыі "Хартлэнд інтэрнэшэнал" з ЗША Кэрэн Эгерэр разам з іншымі прадстаўнікамі недзяржаўнага сэктару Чыкага.**

Галоўнай мэтай візіту было знаёмства з дзейнасьцю мясцовых недзяржаўных арганізацыяў. Найперш з маладзёжным грамадзкім аб'яднаньнем "Ветразь", прадстаўнік якога ў студзені наведваў Чыкага. Амэрыканскія госьці цікавіліся, як слонімскія грамадзкія дзеячы выкарыстоўваюць досьвед, атрыманы падчас амэрыканскіх стажыровак (са Слонімшчыны там пабывала ўжо тры чалавекі).

На развітанне амэрыканцам была падаравана карціна слонімскага мастака Яўгена Іванова з відам Слонімшчыны.

# "ВЯСНА-2000: ДУХ ПЕРАМЕН"

Павал **Севярынец**

"Народная воля", 16 траўня 2000 года

На дзесятым годзе аднаўлення незалежнасці пратэстнае супраціўленне рэжыму ў Беларусі нарэшце ператвараецца ў масавую духоўную апазіцыю - абуджаецца і набірае сілу той сапраўды нацыянальны рух, з якім, не так даўно па краінах Усходняй Еўропы пракаціліся аксамітныя і пяючыя рэвалюцыі.

Асэнсаванне феномена "Беларускай вясны-2000" і ўсведамленне значнасці цяперашніх падзей неабходныя нам усім ужо зараз, каб зразумець, наколькі важныя глабальныя змены перажываюць наша краіна і грамадства.

**Акцыя любові**

Вось ужо чатыры гады старт для падзей мігынговай вясны дае маладафронтаўскае, шэсце на Дзень Святога Валянціна. Заканамерна, што менавіта студэнты і школьнікі, якія ідуць у першых шэрагах і складаюць асноўную масу на большасці незалежніцкіх дэманстрацый, штогод распачынаюць вясновыя вулічныя выступленні — тыя, каму заўтра ў Беларусі жыць, наглядна паказваюць шлях у будучыню, кірунак развіцця краіны. Маладзёжныя дэманстрацыі "Беларусь — у Еўропу!" з абыходам замежных амбасад і абавязковым сюжэтам відовішча шмат у чым вызначалі і далейшы настрой, і характар кожнай вясны. І сёлета абсалютна новыя, моцныя і пранізлівыя ноткі Вясны-2000 упершыню прагучалі менавіта 14 лютага, падчас акцыі Любові.

Сімвалы акцыі, званочкі, якія з пачаткам нашай эры былі знакам ранніх хрысціян, а пазней ператварыліся ў велічныя званы на храмах, яўна пераклікаліся з Прагай-89 і сусветнай эмблемай Радыё "Свабода". Апошні званок для страху, гвалту і нянавісці прагучаў пазыўным свабоды і перамен, першым званочкам веры, надзеі і любові — і, як паказалі наступныя вясновыя падзеі, быў пачуты.

Акцыя Любові згуртавала пад бел-чырвона-белымі сцягамі ў шэсцях, пікетах і жывых "палаючых сэрцах" моладзь дванаццаці буйнейшых беларускіх гарадоў. У святкаванні ўдзельнічалі разам з Маладымі фронтаўцамі і грамадоўцы, і сябры Грамадзянскага Форума, і Маладзёжны Хрысціянскі Сацыяльны Саюз, і Задзіночанне беларускіх студэнтаў, і непалітычныя арганізацыі. Мітынг і канцэрты, вывешванні сцягоў і вечарыны, віншаванні амбасад, прадстаўніцтваў і ўсіх суграмадзян — такой па-сапраўднаму агульнабеларускай, еўрапейскай, самастойнай маладзёжнай кампаніі яшчэ не было. Здаецца, новае пакаленне чуйна ўлавіла аб'яднаўчыя веянні апошніх часоў, падхапіла ідэю салідарнасці — і ў выніку пасля 14 лютага стала магчымым казаць пра існаванне адзінага маладзёжнага нацыянальнага руху.

Двухтысячнае шэсце ў Мінску са спевамі і гучнымі скандзіраваннямі проста дыхала свежасцю і любоўю. Ніводнага затрыманага не было ні ў сталіцы, ні на месцах, дзе многія мерапрыемствы прайшлі несанкцыянавана і былі нечаканымі для ўлад. Міліцыянты, назіральнікі і журналісты здзіўляліся поўнай адсутнасці зняважлівых выкрыкаў, сутыкненняў і нянавісці. Перамога любові над страхам, юнага духу над старэючым рэжымам – вось якой стала прэм'ера-2000.

Нарэшце, самым галоўным вынікам акцыі Любові было тое, што яна не засталася проста вулічным апазіцыйным карнавалам ці маштабнай студэнцкай гулянкай, а ўпершыню акцэнтавала ўвагу на духоўнай, хрысціянскай сутнасці беларускага нацыянальнага руху. Любоў да Радзімы, якая патрабуе змагання, любоў да бліжняга, да кожнага суайчыніка, каханне да любага чалавека, любоў, якая ўратуе свет — усё гэта ўвечары 14 лютага сышлося ў прамоўленых на ўвесь голас словах пра любоў Божую, любоў Хрыстову, любоў у найвышэйшым сэнсе. Сімвалічна, што пасля завяршэння акцыі моладзь, накіравалася ў храмы:

Чырвоны, дзе выступалі беларускія барды, і Касцёл Сьв. Роха, дзе праходзіла вечарына, прысвечаная апекунам Еўропы — Кірылу і Мяфодзію. Агульна-прыняты ўдарны лозунг "Беларусь у Еўропу!" нарэшце набыў поўнае гучанне і цэласную канцэпцыю: уся цывілізацыя Захаду, у якую мы імкнемся, ужо 2 тысячы гадоў будуецца на асноватворным хрысціянскім запавеце любові.

Гэтае неспадзявана моцнае далягляднае азарэнне нацыянальнага руху ў наступных акцыях "Вясны-2000-га" праявілася як ніколі ярка: і на грандыёзным мірным "Маршы Свабоды-II", што перапалохаў рэжым куды больш за пабоішча 17 кастрычніка, і ў выпрабаваннях Дня Волі, у прамовах на мітынгу пасля жорсткіх затрыманняў і разгонаў, і ў ціхай, але прачулай Малітве за Беларусь.

**Марш Свабоды-II**

Змрочнае, халоднае надвор'е 15 сакавіка — дождж са снегам з самай раніцы — адпавядала самым песімістычным настроям і толькі згушчала вакол "Маршу" пагрозныя прадчуванні. Здавалася, настолькі ж цьмяна выглядалі на гэты час перспектывы апазіцыі. Але калі ў 17.00 на плошчы пачалі збірацца людзі, калі натоўпы народу за чвэрць гадзіны запоўнілі пляц перад помнікам, прылеглыя ходнікі і скрыжаванні, калі залуналі першыя сцягі і пракацілася дружнае "Жыве!" — стала зразумела: нягледзячы ні на што, настрой будзе зусім іншы. Аграмадны натоўп ужо не мог змясціцца на плошчы, а людзі ўсё падыходзілі і падыходзілі. Моладзь, што рынулася ў пярэднія шэрагі, з пераможнымі воклічамі рушыла на праспект.

Гэта сапраўды быў "Марш Свабоды". Адкрытыя, радасныя твары — моладзь ужо не хавала іх пад банданамі, — скандзіраванне з прыхлопваннем у сотні рук, гучнае шматтысячнае рэха — такога не было, бадай, з легендарнай Вясны-96. "Жыве Беларусь!", "Незалежнасць!", "Моладзь за Беларусь!" — трыяда вядучых лозунгаў паўтаралася штораз усе мацней. Ужо не надаецца, пра Лукашэнку, не адчайнае, з надрывам, пра ворагаў, а ўпэўнена, вольна, такім пераможным хорам, што дрыжэлі шыбы ў вокнах — "...За Беларусь!".

Грандыёзнае шэсце, што расцягнулася ўжо больш чым на кіламетр, разгортвала і збірала за сабою суправаджальны рух уражаных мічукоў на ходніках — усіх разам было ўжо некалькі дзесяткаў тысяч чалавек. Трэба ўявіць сабе, што адчувалі міліцыянты, выстаўленыя ў ачапленне на вуліцы Багдановіча ішоў "Марш пакаленняў". Наперадзе велізарнай людской плыні, абганяючы галаву калоны, падбегам імчалі дзеці, школьнікі ды падлеткі, за імі рушылі шэрагі моладзі са сцягамі і транспарантамі; у сярэдзіне, як і мае быць, дэманстранты сярэдняга ўзросту, і потым -- пажылыя ўдзельнікі і пенсіянеры. Беларусь "ад мала да вяліка", увесь апазіцыйны рух праходзіў больш як паўгадзіны, скандзіруючы "Жыве Беларусь!" і святочны феерверк на падыходзе да парку Дружбы народаў, і прамовы з асветленай пражэктарамі сцэны сярод, навакольнага змроку, і рок-канцэрт N.R.M. для захопленай моладзі — усё гэта насамрэч апраўдвала выраз "трыумф" Маршу Свабоды-ІІ.

15 сакавіка ўлады прайгралі відавочна і настолькі бездапаможнымі, разгубленымі выглядалі іх паводзіны назаўтра, што забарона далейшых маніфестацый не пакідала ніякіх сумненняў: сапраўды спалохаліся. Відавочным да непрыстойнасці аказаўся той факт, што першы "Марш", 17 кастрычніка, з выбухам нянавісці, каменным градам і жорсткімі сутыкненнямі, быў для іх куды больш выгадны і прымальны, чым маніфестацыя 15 сакавіка. Аказалася, што іх пужае зусім не наша нянавісць, бо як раз нянавісць ёсць праява слабасці. Насамрэч яны добра пачулі водтулле духоўнага руху, які перарастае ў статысячныя пяючыя і аксамітныя рэвалюцыі, таго агульнанацыянальнага абуджэння, адна думка пра якое скаланае рэжымы і імперыі да самых асноваў . "Марш Свабоды-II" нанёс рашучы псіхалагічны ўдар усёй сістэме абароны рэжыму, заснаванай на азлобленым супрацьстаянні радыкальнай вулічнай апазіцыі міліцыянтам і ўнутраным войскам ініцыятыва перайшла да нацыянальнага руху.

**Дзень Волі**

А праз дзесяць дзён, у Дзень Волі, было сонечна. Так шчыра вясновa, ярка і свежа, каб усім было цудоўна бачыць тое, што адбываецца на мінскіх вуліцах. Сонца сляпуча бліш чэла ў метале БТРаў і вадамётаў, блікавала на пластыкавых шлемах спецназа. Бронетэхніка, дэманстратыўна расстаўленая ў самых знакавых месцах сталіцы, - пасярод пл. Незалежнасці, на пл. Якуба Коласа, ля Акадэміі навук — давала зразумець, што рэжым гатовы ажыццявіць самае бязлітаснае падаўленне. Да пачатку маніфестацыі падраздзяленні спецназа раптоўна заатакавалі штаб-кватэру БНФ, хапаючы актывістаў і мітынговы рыштунак. На вуліцах выстраіліся міліцэйскія ланцугі і патрулі з сабакамі. Здавалася, свята пазбаўлена ўсіх шанцаў на тое, каб хаця б пачацца.

На плошчы Якуба Коласа кардоны ўнутраных войск і міліцыі блакіравалі і адцяснялі ў бліжэйшыя вуліцы і двары тысячы людзей, што збіраліся на Дзень Волі. У велізарнай трубе пераходу на станцыі метро, ходніках і прыпынках ужо вірвалі натоўпы. Беспрэцэдэнтная па маштабах паліцэйская аперацыя, разгорнутая ў цэнтры сталіцы, перайшла да масавых затрыманняў. Хапалі і збівалі жанчын, старых, падлеткаў, дэпутатаў польскага Сейма, назіральнікаў АБСЕ, замежных журналістаў і расійскіх тэлеаператараў... Так безаглядна шалеюць толькі тады, калі гістарычная нянавісць ужо больш нагадвае паніку.

Якраз тады на плошчы можна было назіраць пранізлівую карціну. Нейкая дзяўчына цудам вырвалася на пусты ачэплены пляц (вось яна, наша Воля!) і пачала скандзіраваць "Жыве Беларусь!". Людзі, што стаялі за кардонамі з боку Камароўкі і на ходніках, падхапілі вокліч, але дзяўчыну ўжо заломвалі міліцыянты. Імгненне разгубленасці, калі ўдзельнікі аказаліся рассечаныя і зацiснутыя спецпадраздзяленнямі, стала момантам ісціны для нацыянальнага руху. Амаль усе ранейшыя падобныя хапуны завяршаліся поўным разгромам і рассейваннем дэманстрантаў. Але ў гэты дзень у выпрабаванні страхам і гвалтам беларуская воля перамагла. Нягледзячы на тое, што ўжо сотні людзей былі затрыманыя, з плошчы адначасова арганізаваўся стыхійны рух на праспект і па вуліцы В.Харужай. Мінаючы міліцэйскія шэрагі і БТРы, людзі ўздымалі бел-чырвона-белыя сцягі і скандзіравалі "Жыве Беларусь!". На мітынг на аўтастанцыі Кульман прыйшло да 10 тысяч чалавек.

Так 25 сакавіка стала днём перамогі "Вясны-2000". Перамога адбываецца не тады, калі ўсе крычаць "ура!" і эфектна ўскідваюць рукі, а ў той балючы момант, калі перамагаеш страх і нянавісць у самім сабе, калі пераадольваеш уласную няўпэўненасць і слабасць. Менавіта такім момантам ісціны, момантам перамогі для Вясны і стаў Дзень Волі. Калі затрыманыя смяяліся ў твар спецназаўцам, калі ў ангары спецчасткі на Маякоўскага хорам спявалі беларускія песні і скандзіравалі "Жыве Беларусь!", калі ледзь вызваленыя зноў ехалі ў цэнтр, на мітынг, а рассечаныя і атакаваныя натоўпы народу не разбягаліся, а рушылі па горадзе — станавілася абсалютна ясна, што гэта перамога. Далейшыя прыніжаныя міліцэйскія прабачэнні перад журналістамі і апраўдальныя прысуды затрыманым толькі пацвердзілі разгубленасць і слабасць улады перад сілай духу.

25 сакавіка "Вясна-2000" выбухнула. Успышка яркага вясновага сонца асвяціла і выпрабаванне нянавісцю, страхам, гвалтам і нашу перамогу скрозь боль. Усю ўладную машыну скаланула сутарга перапуду. Інфармацыйны выбух, які паследаваў тут жа і апярэдзіў на тэлеканалах расійскія выбары ды чачэнскую вайну, аказаўся яшчэ больш магутным. Розгалас на прасторах ад Вашынгтона да Масквы канчаткова вызначыў расстаноўку сіл вакол Беларусі і ясную, выразную да апошняй рысы карціну: незаконны, гвалтоўны, агрэсіўны дыкгатарскі рэжым – і масавая, едная мірная нацыянальная апазіцыя.

25 сакавіка высвеціла яшчэ адну вельмі важную акалічнасць. Улады пайшлі на небывалыя вулічныя рэпрэсіі, на затрыманні заходніх назіральнікаў і журналістаў, на біцьцё расійскіх тэлекамер — і ўсё дзеля таго, каб не дапусціць беларускага сьвята. Гэта значыла, што больш, чым Захаду, сусветнай супольнасці, нават больш, чым Расіі, рэжым баіцца вольнай Беларусі — нашай з вамі веры, волі і духоўнай сілы.

**Малітва за Беларусь**

Пасля аглушальнага выбуху 25 сакавіка чаканне акцыі ў "Дзень аб'яднання Беларусі Расіі" было нямым. І ў прамым сэнсе — амаль без апавяшчэння, без рэкламы, раскруткі і ў пераносным — бо страх улады і папярэдні хапун крайне напружылі маўклівае супрацьстаянне. Здавалася, "Вясна-2000" павісла ў паветры: ці прыйдзе хоць хто? ці пачнуць хапаць?...

Не такая ўжо масавая і відовішчная, Малітва за Беларусь аказалася сэнсава больш моцнай за многія папярэднія акцыі. Улады нават не ўзяліся арганізоўваць хоць нейкае падабенства свайго "свята" - і таму малітва ў

цэнтры горада пасля вялізнага пагрому сталася практычна адзінай і вырашальнай падзеяй 2 красавіка.

Сотні людзей сабраліся ў парку ля помніка. Узнята бел-чырвона-белы сцяг, запалілі свечы. Фронтаўскі хор спяваў "Магутны Божа". З'явіліся святары — і вось загучала малітва. Вакол, у натоўпе, стаяў, несціханы шэпт — людзі маліліся, хто як умее. На заканчэнні пачулася: "Жыве Беларусь!" — і настолькі аграмадная сіла спрацавала ў малітве, такім дружным і гучным "Жыве!!!" грымнула ў адказ, што скрозь здрыгануліся ціхары ў натоўпе, а міліцыянты наводдаль імгненна выцягнуліся ў струнку.

Трэба сказаць, арганізатары вельмі пільна угадалі момант малітвы. Дагэтуль мала хто заўважаў драматычную календарную напругу беларускай вясны. У першай палове — святы: Дзень Валянціна, Дзень Канстытуцыі, Дзень Волі. А вось другая, пачынаючы з красавіка, — гэта ўжо, шэраг дат памятных, глыбока трагічных. Гадавіна падпісання саюзнай дамовы з Расіяй 2 красавіка. "Чарнобыльскі Шлях" 26 красавіка. Дзень ганебнага рэферэндуму аб змене нацыянальнай сімволікі 14 трауня. Нарэшце 30 траўня — Няміга. I самае ўражлівае, што гэтую вясну катастрофаў сэнсоўна выратоўвае толькі кульмінацыя Вялікадня — Дзень уваскрэсення Хрыста, які звычайна прыпадае на красавік-травень. Усё прадонне сэнсу, увесь боль пакуты беларускай гісторыі, уся веліч будучыні сыходзіцца ў гэтым вобразе.

Напярэданні чорных, трагічных датаў, у час Вялікага посту і ў набліжэнні Страснага тыдня Малітва за Беларусь стала дзеяй куды больш глыбокай і змястоўнай, чым магло б камусьці падацца ля помніка Янку Купалу 2 красавіка. Бо сутнасць малітвы не ў тым, каб штосьці выпрошваць, скардзіцца, ныць і чакаць склаўшы рукі. Наадварот, малітва — гэта самастойны ўздым да вышынь духу, да ўсясветнага зместу, да самога святога, да абсалютнай ісціны. Да Бога. Супольная малітва — гэта тое, пгго яднае ў адзіным парыве і людзей між сабою, і нацыю з Богам. Супольная малітва — гэта наш духоўны фронт супраць імперыі зла. Супольная малітва — гэта, у рэшце рэшт, гімн Беларусі "Магутны Божа, уладар Сусвету, вялікіх сонцаў і сэрц малых...". У першай, сціплай і ціхай, але шчырай "Малітве за Беларусь — 2000" апазіцыя нарэшце знайшла пачатак той магутнай акцыі, якая ў далейшым здольная стаць адказам грамадству і ўладзе на паражэнні мінуўшчыны, на цяперашні адчай і пагрозу рэваншу. З малітвамі нараджаюцца нацыі. З малітваў пачыналіся ў свой час Полыпча, Чэхія і Прыбалтыка. З малітвы кожны свой дзень пачынаюць сёння і Еўропа, і Амерыка..

**Чарнобыльскі Шлях**

Каб у поўнай меры ацаніць тое, што ж насамрэч адбылося ў Мінску 26 красавіка, трэба узнавіць атмасферу, якая папярэднічала "Чарнобыльскаму Шляху-2000".

Супрацьстаянне рэжыму і нацыянальнага руху дасягнула піку. Наколькі сур'ёзны абарот прымаюць падзеі, паказала катэгарычная забарона шэсця, тэрміновы ад'езд з Мінска на 26 красавіка Лукашэнкі, шырокамаштабныя чуткі пра прымяненне спецсродкаў і бронетэхнікі і, нарэшце, нечаканая і гучная адстаўка міністра ўнутраных спраў Сівакова. Мінгарвыканкам ледзь не штодня праводзіў усё новыя перамовы з апазіцыяй, і іх удзельнікам адразу кідалася ў вочы: чыноўнікі разгубленыя, перапуджаныя і неверагодна шчырыя ў кулуарах. А калі ўлады даведаліся, што для ўдзелу ў "Шляху" ў Беларусь прыбываюць дэпутацкія дэлегацыі з Нямеччыны, Польшчы, Чэхіі, Украіны і Расіі, больш за 100 прадстаўнікоў міжнародных гуманітарных арганізацый і сотні журналістаў з усяго свету, — нервы здалі канчаткова, і перапалох перарос у панічнае адступленне. Увечары 25 красавіка, за суткі да пачатку шэсця, гарвыканкам даў афіцыйны дазвол на правядзенне Чарнобыльскага Шляху па праспекце Скарыны. А 26-га назіральнікаў не пакідала ўражанне, што рэжым увогуле праваліўся скрозь зямлю: не было ні кардонаў, ні дэманстратыўных БТРаў на плошчах, ні нават патрулёў з сабакамі. Амаль усе міліцыянты, спецназаўцы і вайскоўцы схаваліся ў глыбокіх дварах і не высоўваліся на вуліцу: толькі потым, ужо бліжэй да ночы, пасля шэсця, іх, хаваючыся ў цемры, калонамі ў дзесяткі машын вывозілі з цэнтра сталіцы.

Поўны інфармацыйны і псіхалагічны разгром уладных пазіцый даваршыў сам шматтысячны, мірны і едны "Чарнобыльскі Шлях". Велізарныя грамады народу, корпус чорных транспарантаў са знакамі радыяцыі ў галаве шэсця, поўныя ходнікі гледачоў — скрозь расчыненыя вокны і балконы дамоў па маршруце шэсця пад пранізлівы гул звону — відовішча было проста магутным. У жалобны і памятны дзень людзі прайшлі "Чарнобыльскім Шляхам" так, як і належыць нацыі, аб'яднанай бядою і пакаяннем. А грамадны мітынг на плошчы ў парку Дружбы народаў, які не змагла ўмясціць нават спецыяльна заасфальтаваная плошча, пачаўся з малітвы. Асаблівым знакам стала тое, што "Чарнобыльскі Шлях-2000" апынуўся паміж каталіцкім і праваслаўным Вялікаднямі. На ўздыме 'Таемнай Вячэры, смяротных пакутаў Хрыста і Ягонага цудоўнага Ўваскрэсення, беларускае шэсце, трагічнае і трыўмфальнае адначасова, ператварылася ў велічную маніфестацыю духа. Гэты Шлях болю і надзеі, перажывання і высільвання, веры і памяці аб'ядноўваў, здавалася б, навечна раздзеленых на гэтай зямлі ўсходнікаў і заходнікаў. Гэты Шлях, які стаў найбуйнейшай акцыяй "Вясны-2000', пераканаўча даводзіў усяму свету: нягледзячы: на закладзеную ў генах радыяцыю, на рак дыктатуры, на пагрозу вяртання імперыі зла, Беларусь усё роўна мацней за страх, нянавісць і боль.

Увогуле, уся Вясна-2000, якая пракацілася ўзрастальным шэрагам вялізных мірных дэманстрацый, жыва нагадала чэшскія і прыбалтыйскія рэвалюцыі, што перамянілі аблічча Ўсходняй Еўропы з развалам СССР, напрыканцы 80-х і самае важнае, што зместам і сутнасцю Новага Беларускага Абуджэння сталі зусім не азлобленасць, не крыклівы пратэст, не страх і не крывавы гвалт. Вера і Любоў, Воля і Свабода, Малітва і Шлях — вось тыя звышсілы, што гіганцкімі штуршкамі ўздымаюць зараз нацыю ў эпіцэнтры змагання за Беларусь.

Заўважце, у якія простыя, моцныя словы і паняцці пераплаўляе 2000 год шматтысячныя вясновыя маніфестацыі. Акцыя Любові. "Марш Свабоды". Дзень Волі. Малітва за Беларусь. "Чарнрбыльскі Щлях". Гэта ўжо не палітычныя транспаранты "Дзень Канстытуцыі — 1994" ці "Дзень падпісання саюзнай дамовы", а асноватворныя формулы жыцця, гатовыя коды нацыянальнай ідэі. Простыя словы, простыя рэчы, з якіх усё і пачынаецца. У гэтым размераным, поўным унутранай сілы эпахальным гучанні — стоены рокат, гісторыі, якая творыцца на нашых вачах. 2000-ы год ад нараджэння Хрыстова Бог нас чуе... Наступныя вясновыя акцыі, якімі завяршаецца шэраг памятных дат, вымагаюць ад нас не проста дружнага мітынгу ці суладнага "Жыве!". І 14, і 30 траўня даюць нам вобразы катастрафічных правалаў, духоўнай спустошанасці, усёй жудасці прыніжэння і рабства, усей пачварнасці граху, зла і смерці — дзеля таго, каб асэнсаваць і адчуць увесь неймаверны боль сённяшняй Беларусі. За пераможным шматтысячным рэем лютага - красавіка нас чакаюць далейшыя выпрабаванні духу — яднанне ў пакаянні, гартаванне, унутранае пераўтварэнне. Толькі тады, пасля духоўных узрушэнняў і азарэнняў да глыбіняў усяго грамадства "Вясна-2000" зможа стаць сапраўднай Вясной перамен, вясной абуджэння беларускай нацыі. Зараз самае галоўнае, каб гэты рух перамен не сышоў у легенды памяці подыхам, попахам ці лёгкім ветрыкам, а сапраўды стаў Духам, дыханнем беларускай нацыянальнай апазіцыі. Каб любіць, быць свабоднымі, верыць і выконваць волю Божую пад бел-чырвона-белым сцягам Хрыста для нас з вамі было б гэтак жа проста і натуральна, як і вольна дыхаць.

Міхась БЕЛЯМУК (ЗША)

# ПЯЧАТКА ЎСЯСЛАВА.

Ужо каторы раз, перагортваючы "Актовыя печати древней Руси X-XУ вв"1), задаю сабе пытаньне, чаму на яе старонках няма пячаткі полацкага князя Ўсяслава Брачыславіча, які пракняжыў 56 год /1044-1101/. Гісторыкі станоўча апісвалі ягонае княжаваньне. Прыкладам, Б. В. Сапуноў адзначыў: "Биография Всеслава — это биография одной из самых ярких личностей XI в.2) Другі выдатны гісторык М. Н. Ціхаміраў пісаў : "Для летописца Всеслав представлялся почти легендарной личностью, овеяной ореолом таинственности. Он родился от "волхования".3) Б. А. Рыбаков выказаўся яшчэ больш пахвальна: "Блестящий Всеслав... заслонил собой всех троих Ярославичей /Ізяслава, Святаслава і Всевалада - М. Б./, промелькнув на русском горизонте, как та "звезда превелика".4) Высока ацэньвалі дзейнасьць Усяслава ўсе гісторыкі, пачынаючы з В. Н. Тацішчава. За знаходлівасьць, энергію і "вешчую душу" полацкі князь Усяслаў Брачыславіч атрымаў народнае імя Чарадзей. Ён апяваецца ў "Слове о полку Игореве", пра яго народ злажыў быліны.

Паколькі полацкі летапіс бясследна загінуў, то хрысьціянскае імя князя Ўсяслава Брачыславіча канула ў Лету. У іншых летапісных крыніцах таксама яно не аднатаванае, бо Ўсяслаў "народжаны як вядзьмяр, пераменьваецца ў ваўка, валодае чарадзейскаю сілаю і ўтрымлівае лучнасьць з язычнікамі". На знойдзеных пячатках XI ст. фігуравала хрысьціянскае імя князя, а князі вядомыя пад народным, славянскім імём. Дасьледчык пячатак В. Л. Янін адшукаў у пісьмовых крыніцах хрысьціянскае імя кіеўскага князя Ізяслава Яраславіча і ўсе 9 пячатак з імем Дзімітры прыпісаў гэтаму князю. Аднак, на наш погляд, не выключана і такая мажлівасьць, што два князі, якія жылі ў адным часе, маглі мець адно і тое-ж хрысьціянскае імя. У такім выпадку дасьледчык аналізуе эмблемы на знойдзеных пячатках, вызначае іх ідэнтычнасьць і адметнасьць. Калі эмблемы розьняцца паміж сабой, то можна меркаваць, што пячаткі належаць розным князям. Разгледзем пад гэтым поглядам пячаткі Ізяслава Яраславіча /1054-1078/, якія княжыў з двума перапынкамі.

Пячаткі першага тыпу. Пячатка на адным баку мае княжы знак і па перыметры грэцкую легенду: "Госпадзі памажы рабу свайму Дзімітрыю". На другім баку пячаткі адлюстраваны воін у поўны рост з шчытом і дзідаю. Надпіс на двух калёнках "Дімітр". Вакол галавы воіна — німб, што-б азначала, што воін кананізаваны царквою. Гэта Дзімітры Салунскі, патрон князя Ізяслава Яраславіча. Пячатка знойдзена ў Ноўгарадзе.




Пячаткі другога тыпу. Наступныя чатыры пячаткі маюць на адным баку шматпялёстكавую разэтку і прыгожа аздоблены абводак, а на другім — пагрудны вобраз воіна з шчытом і дзідаю. Побач, на двух калёнках, грэцкі надпіс: "агіос"/сьвяты/ і "Дімітр". Вакол галавы воіна — німб, які сьведчыць, што сьвяты — Дзімітры Салунскі, патрон князя Ізяслава Яраславіча. Пячаткі першага і другога тыпаў бясспрэчна належаць кіеўскаму князю Ізяславу. Пячаткі знойдзены — адна ў Тураве, другая ў Межыгор'і, а дзьве ў Вышгарадзе каля Кіева.




Пячаткі трэцяга тыпу розьняцца ад папярэдніх. На адным баку яны маюць чатырохпялёсткавую кветку, якая стварае грэцкі крыж, аздоблены завіткамі лініяў, а на адваротным баку — фігуру асобы ў поўны рост з круглым невялікім шчытом і дзідаю.




Фігура без німба і грэцкага надпісу "агіос". Надпіс, што па пэрыметры пячаткі, падзелены на дзьве часткі і чытаецца ў люстэрку "Дімітрэос". Паколькі Дзімітры без німба, то гэта азначае, што ён не кананізаваны царквою і зьяўляецца сьвецкаю асобаю. В. Л. Янін, апісваючы пячаткі Сьвятаслава

— Мікалая Яраславіча, гэтак пісаў: "Отсутсвие нимба в сочетании с княжеской шапкой позволяет установить, что на печатях изображен сам князь, владелец буллы" /пячаткі - М. Б./. На пячатцы на галаве Дзімітрыя не княжацкая шапка, але бізантыйская карона-дыядэма. Ён апрануты ў пышнае адзеньне: паверх даўгой тунікі надзеты багаты сакас, — што-б сьведчыла аб прыналежнасьці да арыстакратычнага кола і пацьвярджала-б, што на пячатцы выява самога князя Дзімітрыя.

Адна пячатка знойдзена ў Ноўгарадзе, другая ў Ваўкавыску, трэцяя ў Палтаўскай вобласьці, а чацьвёртая згубіла свой пашпарт.

І гэты трэці тып пячатак В. Л. Янін далучыў да папярэдняга толькі на той падставе, што на іх маюцца "розетки нигде более не встречающиеся". Адваротны бок пячаткі дасьледчык не аналізаваў. Ён толькі сказаў, што пячаткі трэцяга тыпу ня маюць "аналогий в русской сфрагистике".

На наш погляд, уласьнікам гэтых пячатак, якія выразна адрозьніваюцца ад папярэдніх тыпаў, мог быць іншы князь з ідэнтычным хрысьціянскім імем Дзімітры.

Лічым, што пячаткі трэцяга тыпу зьяўляюцца адаптацыяй бізантыйскае сфрагістыкі. Так на імператарскіх пячатках другой паловы XI ст. з аднаго боку зьмешчаны імператар ў поўны рост. Ён вакол галавы ня мае німба. Па пэрымэтры пячаткі легенда, якая падае імя імпэратара. Пячаткі рэпрэзентуюць імпэратрыцу Тэадору /1054-1056/, Канстантына Х-га Дуку /1059-1066/, Андроніка /1067/, Нікіфара ІІІ-га /1078-1081/, Аляксея /1081-1118/.5)



Канстантын Х-ты

На другім баку бізантыйскіх пячатак /як і на манэтах/ адлюстраваны вобраз Хрыста. Такая эмблема выкарыстоўвалася толькі імпэратарамі бізантыйскае імпэрыі. Таму князь Дзімітры на сваёй пячатцы замяніў вобраз Хрыста чатырохпялёсткавай кветкай /таксама хрысьціянскай эмблемай/, якая ў сваёй аснове мела грэцкі крыж.

Пра перайманьне Полатчынай бізантыйскіх узораў сьведчыць і Радзівілаўскі летапіс.6) На адной з яго мініяцюр намаляваны полацкі князь Усяслаў Брачыславіч, які ў чаўне пераплывае Днянро для сустрэчы з Яраславічамі.



На галаве Ўсяслава — туфа. Такі галаўны ўбор ужываўся ў Бізантыі, яго насілі "сыновья и братья императора".7) Зьяўленьне туфы ў Полатчыне ў часы панаваньня Ўсеслава Брачыславіча сьведчыць аб блізкіх і прыязных адносінах з бізантыйскім імпэратарскім домам.

Гэткія блізкія і прыязныя адносіны прадоўжваліся і пасьля сьмерці Ўсяслава Брачыславіча. Ігуменьня Еўфрасіньня праз сваё пасольства атрымала ад імператара Мануіла дрэва Крыжа Гасподняга, частачку ад гроба Багародзіцы, мошчы сьвятых угоднікаў Божых і кроў сьвятога Дзімітрыя. На дзяржальні свайго знакамітага цудатворнага крыжа яна зьмясьціла кроў і іконку сьвятога Дзімітрыя.8) Усё гэта трапіла на Еўфрасінеўскі крыж не прыпадкова. Сьвяты Дзімітры, праўдападобна, быў патронам полацкага князя Ўсяслава. І гэты факт сьведчыць, што Ўсяслаў быў хрышчаны і пры хрышчэньні мог атрымаць імя Дзімітры. Ігуменьня Еўфрасіньня, шануючы памяць свайго славутага, паўлегендарнага дзеда, і памятаючы, што ён збудаваў слаўны Сафійскі сабор, зьмясьціла на сваім унікальным крыжы ягонага патрона.

Такім чынам, падагульняючы нашыя разважаньні, лічым, што ўласьнікам пячатак трэцяга тыпу зьяўляецца менавіта полацкі князь Усяслаў Брачыславіч, які меў хрысьціянскае імя Дзімітры.


1. В. Л. Янин. Актовые печати древней Русии Х-ХУ вв. т. 1, М. 1970. ст. 34-35, 166-167, 249

2. Б. В. Сапунов. Всеслав Полоций в "Слове о полку Игореве". ТОДРЛ. т. ХУІІ, М.-Л. 1961, ст. 76

3. М. Н. Тихомиров. Крестьянские и городские востания на Руси ХІ-ХІІІ вв. М. 1964, ст. 63

4. Б. А. Рыбаков. "Слово о полку Игореве и его время. М. 1985, ст. 63

5. G. Schlumberger. Sigillographic de l'Emipire Byzantin. Paris 1884, pp. 421-423

6. Общество любителей древней письменности. Радзивиловская или Кенигсберская летопись. Спб 1902, ст. 97

7. Г. К. Вагнер. Скультура Владимиро-Суздальской Руси. М. 1964, ст. 40

8. Л. В. Алексеев. Лазар Богша — мастер — ювелир ХІІ в. "Советская археология", № 3, М. 1957, ст. 230, 232


# БЕЛАРУСАФОБІЯ

Зь беларусафобіяй трэба змагацца -- гэта беларусы мусяць разумець ясна і цьвёрда. Мы павінны ўсьведамляць безумоўную патрэбу і неабходнасьць самаахоўы Беларусі і беларускага этнасу ад разбуральнай дзейнасьці варожых яе натуральнаму разьвіцьцю сілаў.

Беларусафобія -- адмаўленьне, варожасьць, нянавісьць да беларускага этнасу, беларускага слова, Беларусі і вынікаючая з гэтага антыбеларуская дзейнасьць носьбітаў у яе актыўных і пасыўных формах. У адных беларусафобаў беларускасьць выклікае балючую алергічную рэакцыю, каторая і ёсьць непасрэдны пабуджальнік беларусафобіі. Каб яе нэўтралізаваць, трэба карэнна рэфармаваць мэнталітэт яе носьбітаў, што маларэальна, таму практычная мэта -- нэўтралізаваць іхную нэгатыўную дзейнасьць.

Для іншых беларусафобія -- выбар духоўна няўстойлівых, павярхоўна-эгаістычных істотаў, якія дзеля задаволеньня сваіх псыха-фізычных патрэбаў зафарбаваліся пад беларусафобаў, бо менавіта гэтая маска ў канкрэтных грамадзка-палітычных умовах прыносіць ім больш выгады. Выкараненьне такой беларусафобіі патрабуе наступнага: зьвяржэньня антыбеларускага рэжыму, які спарадзіў і падтрымлівае беларусафобію, стварэньне беларускага ладу, пры якім выгадна быць нармальным ляяльным грамадзянінам беларускай дзяржавы, у тым ліку і ў пабытовым пляне. Прычым зьмены пад уплывам сацыяльна-палітычных абставінаў павінны замацоўвацца духоўна-культурнай загартоўкай, тады з рыхлых камякоў руды цяперашняга грамадзтва на Беларусі выплавіцца гартаваная сталь зьяднанай беларускай нацыі.

Асыміляцыя і калянізацыя з боку Расеі і Польшчы сталі прычынаю зьмяшчэньня, разломаў у этнічным полі. Этнічнае поле -- гэта тая нябачная энэргія, якая робіць масу людзей ня проста антрапалягічна роднасным насельніцтвам, але лучыць унутрана, творыць духоўна і псыхічна падобнымі людзьмі, якія і будуць народам, этнасам. Практычна гэтыя разбуральныя іншародныя ўзьдзеяньні - разломы этнічнага поля і прыгнёт -- выявіліся ў псыха-фізычнай дэградацыі беларускага этнасу: вырачэньне беларушчыны і сваіх каранёў, страшны росквіт п'янства, хамства, паталёгіі, выміраньне, пераварот кіраўніцтва ў ворагаў Беларусі. Ня менш жахлівы ўплыў гэтых зьмяшчэньняў этнічнага поля на саму Беларусь: вынішчэньне прыроды, экалягічныя катастрофы як спосаб антыбеларускай дзейнасьці -- шкодніцкая мэліярацыя, забруджваньне вады, паветра, глебы, Чарнобыль выморваньне расьлін і жывёлаў.

Дзьве вельмі істотныя праблемы, без разгляду якіх немагчыма пасьпяховае змаганьне з расейскім шавінізмам. Гэта „богоизбранность и чудосвятость русского народа" і „являются ли русские славя- нами?". Вось расейцы ў Беларусі назвалі сваю групоўку „Славянский Собор „Белая Русь". Разьбярэмся, што тут да чаго. Расейскі літаратуразнавец і гісторык, адзін зь вядучых супрацоўнікаў часопіса „Наш современник" Вадим Кожинов кажа: „Я вовсе не считаю, что славянские народы, живущие западнее границ нашей страны или бывших западных границ, имеют единую судьбу с Россией. Я вообще не думаю, что русский народ является по своей внутренней сути собственно и „славянским". Даже с точки зрения антропологической (слишком он разбавлен тюркскими и финскими влияниями) в нем очень мало славянского, не говоря уже об исторической судьбе. Уж если давать какое-то определение, я бы причислил себя к „евразийцам". К ним принадлежали князь Н. С. Трубецкой, который более известен как гениальный филолог, признанный во всем мире и в нашей стране, выдающийся историк Г. В. Вернадский... В основе их учения заветы Константина Леонтьева, Тютчева, Достоевского". А на думку расейскага навукоўца Л. Ґумілёва, расейцы -- вынік гібрыдызацыі рэцэсіўнага (падаўленага) славянскага дамешка з фіна-цюркамангольскімі этнасамі з часткова славянскаю моваю (у асноўным пад уплывам царкоўнаславянскай), якая цяпер імкліва насычаецца інтэрлексыкай, усё больш страчваючы славянскія рысы. Дык якія ж расейцы славяне, калі ў расейцаў „очень мало славянского" і яны „евразийцы", і гэта кажуць і прызнаюць „выдающиеся российские ученые и деятели"? Ня будзем сарамліва ці баязьліва маўчаць, як дурнаватыя зламкі, расейцы нават не славяне, яны -- „эўразіяты", і ня трэба хлусьлівых і сьлязьлівых „исповедей" пра „славянское триединство". Чым далей імчыць час, тым усё больш яны становяцца эўразійцамі са сваім культурна-псыхічным і антрапалягічным тыпам, у іх свой шлях, свой лёс. А беларусы ўзьніклі як этнагенэтычны сынтэз славянаў з балцкімі плямёнамі, стаўшы славянскім этнасам арыйскага (інда-эўрапейскага) тыпу з сваім непаўторным абліччам. У гэтым нашая адметнасьць, бо мы не мяшаліся ў значных памерах зь нярoднаснымі, неарыйскімі этнасамі. Гэта яшчэ адна важная прычына, што беларускі нацыянальны рух мусіць перамагчы, бо безь беларусаў Белы Сьвет будзе непаўнавартасным.

Цяпер пабачым, што там за „богоугодность и чудосвятость русского народа". "Советская Белоруссия", 1.02.94 г., В. Акулов: „...не понимает одной чрезвычайно важной особенности русского национального сознания, отличающей его от „европейского", а именно: русский человек никогда не ощущал себя завоевателем на землях, которые он присоединил к империи или (это случалось чаще) которые сами добровольно, иногда после многократных просьб, присоединялись к ней. Эту особенность характера и национального самосознания русского человека опять-таки прекрасно выразил Иван Солоневич. Вот что он пишет, сравнивая „русскую доминанту" с „европейской": „На базе Римской Империи ее организаторы разбогатели неслыханно. На базе Великой Империи создали свои чудовищные состояния и лорды, и леди, и банкиры, и судовладельцы. На базе Империи Российской никто из русских не заработал ничего: ни в Сибири, ни на Кавказе, ни в Финляндии, ни в Польше. Для русского мужика не было отнято ни одного клочка земли: ни от финнов, ни от поляков, ни от грузин..." Прав Солоневич или не прав? Безусловно, прав".

Ілгуць. „Еще в 1859 г. Генерал Евдокимов изгнал тех черкесов, что издавна жили в междуречьи Лабы и Белой, чем вынудил их переселиться в Турцию, в 1860 г. Туда же были выдалены со своей земли абхазы, та же печальная участь постигла спустя год шапсугов. Уже к 1864 г. Северо-Западный Кавказ почти лишился своего прежнего коренного насе- ления и только одних черкесов было депортировано полтора миллиона, а на их просторах появилось около 100 станиц для казаков. И стынет кровь в жилах, когда даже в тенденциозной работе официального российского историка Кавказской войны А. Берже читаем: „И действительно, чье сердце не содрогнулось бы при виде, например, молодой черкешенки, в рубище, лежавшей на сырой земле под открытым небом с двумя малютками, из которых один в предсмертных корчах боролся за жизнь, в то время как другой искал утоления

голода у груди уже окоченевшего трупа своей матери. А подобных сцен встречалось много". Так огнем и мечом, кровью и слезами создавался в Российской империи один из многочисленных прецедентов для последующего геноцида СССР по отношению к немцам Поволжья, крымским татарам и кавказским горцам" („Новое русское слово", 1974 г., Ню Ёрк). А калянізацыя Ўралу, Сібіры, Далёкага Ўсходу і Поўначы, прырода якіх пачварна зрабаваная і распрададзеная, а народы выміраюць? Расея захоплівала найперш тыя землі, якія маглі быць важнай крыніцай даходаў. Суворў за падаўленьне вызваленчага паўстаньня ў Польшчы і Беларусі атрымаў не „клочок земли", а вялізныя беларускія і ўкраінскія абшары з 15 тысячамі „душ" (70 тысяч чалавек) свабодных людзей, запрыгоненых на 70 гадоў у расейскае ярмо. Пра наплыў „истинно русских людей" на Беларусь пасьля ўдушэньня паўстаньня 1863-1864 гадоў можна прачытаць, напрыклад, у „Западноруссизме" А. Цьвікевіча і „Почему мы не стали русскими?" Сяргея Дубаўца. „Не зарабатывали ничего" толькі тыя, хто ўсё прапіваў. Наконт вызначэньня І. Саланевічам повяду „империя", зь якім згодны і В. Акулов: „Империя есть сообщество народов, уживающихся вместе. Это есть школа воспитания человеческих чувств, так слабо представленных в человеческой истории. Это есть общность. Это есть отсутствие границ, таможен, перегородок, провинциализма, феодальных войн и феодальной психологии..." Дапусьцім, што Саланевіч мае рацыю, але чаму ж тады расейскія шавіністы лямантуюць пра небясьпеку „мондиалистов", „всемирный сионо-масонский заговор", якія маюць за мэту якраз аб'ядаць людзкую супольнасьць у супэрімпэрыі -- „Империя Земля", у якой будзе тое ж „отсутствие границ, таможен, перегородок..."? Відаць, баяцца, што ў гэтай імпэрыі панаваць будуць ня „истинно русские люди", яны мараць толькі пра такую „общность", дзе „править будут русские господа, которым недоразвитые инородцы будут лизать сапоги" (з выступу вядомага Жырыноўскага).

Існуе яшчэ адна спэцыфічная плынь беларусафобіі, зь якой антыбеларуская дзейнасьць адбываецца ў прыхаваных формах і не адразу заўважная. Касмапалітызм, „общечеловеки". Сама зьява касмапалітызму, яго паходжаньне і характарыстыка патрабуюць асобнага аналізу, бо маюць плянэтарныя маштабы і ёсьць складанай навуковай і геапалітычнай праблемай. Цяпер жа зазначым датычнае разгляданай тэмы. Вэстэрнізацыя" (як і другія зьявы, накшталт "сьвядомасьці Крышны", дыянэтыкі і да т. п.) памяншае, разьбівае агульную масу антыбеларускіх сілаў на рознаскіраваныя, нават варожыя адзін аднаму плыні, таму прыносіла пэўную тактычную карысьць, да той пары, пакуль не пранікла ў беларускае грамадства. Цяпер "вэстэрнізацыя" ўяўляе сабой аграмадную пагрозу і шкоду. Але беларускі рух павінен выкарыстоўваць гнуткую тактыку ў дачыненьні да касмапалітызму, улічваючы стратэгічныя інтарэсы Беларусі. У будучыні небясьпека касмапалітызацыі псыхафізычнаму здароўю беларускага народа ліквідуецца шляхам дзяржаўнага ўпарадкаваньня і канкурэнтаздольнасьці беларускай культуры, г. зн. яна мусіць лепш задавольваць і фармаваць духоўна-культурныя запатрабаваньні грамадзянаў.

Адзін з асноўных мэтадаў беларусафобаў -- стварэньне мітаў. „Маленькая беззащитная Беларусь", „необеспеченная ресурсами республика", „талерантны, церплівы беларускі народ" і шчэ доўгі шэраг эпітэтаў зь міталягічнага набору, які падрывае веру беларусаў у сваю краіну, уласную будучыню і здольнасьць жыць. Аднак ніхто ня шкодзіць справе "яднаньня славянаў" больш, чым самі расейцы: сваім нездаровым ладам жыцьця і пабытовымі звычкамі, сваім амаль паталягічным чалавеканенавісьніцтвам і паўсюднымі крутельствам і лайдацтвам -- усім тым, што абумоўлівае цяперашні ўбогі стан Расеі і што робіць пакутай самое існаваньне ў такой краіне. І менавіта ў гэтую краіну нашы кіраўнікі езьдзяць на паклон, як калісь маскоўскія князі ў Арду! Якая ганьба для нас!

Што ж, мы мусім вытрываць гэтую ганьбу. Каб здабыць вартую будучыню, трэба розасьці ў думцы і нязломнасьці ў барацьбе. Галоўнае -- захаваць тыя нацыянальныя рысы, якія адрозьніваюць нас ад іх, і найперш працавітасьць, жаданьне працаваць ад ранку да ночы. Тады надыйдзе час, і скончыцца гэтае вар'яцтва. Беларусь выжыве і зазьзяе ў славе і шчасьці.

Group Of Belarusian Patriots

---

Лілія САЗАНАВЕЦ

# ТЫРАН

Тое, што ён зьявіўся — ня было памылкай ці якой-небудзь недарэчнасьцю. Яго чакалі, яго жадалі. Дзеля гэтага доўгія гады працягвалася карпатлівая, мэтанацэленая праца. Нашчадкі тых, сьмелых ды гераічных, вынішчаліся ды высылаліся. На іх месца засяляліся нашчадкі іх ворагаў, тых, хто высяляў ды вынішчаў. Ганьбавалася ўсё, што мела адметнасьць ці хоць нейкую прыналежнасьць да таго, мінулага. Тыя, хто застаўся, даўно забыліся: хто яны. Яны звыкліся са сваім станам горшых, не такіх таленавітых, не такіх разумных. Яны забыліся, што такое воля! Той непрацяглы і невялікі глыток свабоды не прымусіў іх успомніць. Хутчэй наадварот, ад гэтага глытку яны адчулі толькі раздражненьне. Парушаўся іх звыклы стан! Тыя рэдкія выключэньні з асноўнай масы так і засталіся пакуль што толькі выключэньнямі. Маса чакала тырана!

Мне нічога не вядома пра ягонае дзяцінства. Тое, што звычайна пішуць ужо пасьля таго, калі пісаць можна толькі тое, што можна — гэта лухта. Ня можа быць праўдай тое, за чым нядрэмна сочаць. Між тым, я магу выразна ўявіць сабе гэтае дзяцінства. Гэта было дзяцінства без бацькі, які не загінуў на фронце... І ці ня гэта зьявілася той асноўнай прычынай, чаму яму гэтак захацелася ўладарыць. Захацелася быць усеагульным "бацькам". Ён бачыў, як любілі і каралі (калі трэба) ягоных сяброў (калі тыя былі) іхнія бацькі. Яму хацелася і таго і другога. Жаданьне гэтае з гадамі расло і зьмянялася. У рэшце рэшт настаў час, калі яму захацелася, каб яго толькі любілі, а каб ён толькі караў.

Я ўпэўнена, што ён не паважае і сваю маці. Дзеля гэтага маецца многа прычынаў. Папершае, яна не дала яму бацькі, гэта значыць, прымусіла яго цярпець зьдзекі і зьнявагу. Бастарды заўсёды былі людзьмі ніжэйшага гатунку, а яму хацелася быць вышэй за ўсіх.

Па-другое, яна была жанчынай простай, сама не вылучалася ні асаблівым розумам, ні вялікімі запатрабаваньнямі, таму не магла даць свайму нашчадку таго, чаго яму хацелася. Яна лічыла, што падаравала яму жыцьцё — і гэтага дастаткова. Але тое жыцьцё, якое яна яму падаравала, ніколі яго не задавальняла. Недзе ў глыбіні душы ён лічыў, што прырода памылілася, ён павінен быў нарадзіцца намнога раней, і ягонымі бацькамі павінны былі быць зусім іншыя людзі.

І нарэшце, тыраны ня здольныя нікога любіць і паважаць, нават сваіх бацькоў. Чалавек, які паважае іншага, ягоныя меркаваньні, ягоныя жаданьні, няхай яны яму не зусім падабаюцца, тыранам ніколі ня стане.

Не магу нікуды падзецца ад думкі, што я таксама ня вельмі паважаю гэтую жанчыну, хоць ніводнага разу ў жыцьці яе ня бачыла, ня чула яе голасу. І ўсё-ж такі я яе абвінавачваю, калі, наогул, можна абвінаваціць жанчыну за тое, што яна нарадзіла. Гэта яна, першая жанчына, якая мела да яго нейкае дачыненьне, вінаватая ў тым, што ён гэтак ня любіць жанчын. Калі ён у чарговы раз падыме свой келіх за жанчын (а ён гэта робіць часта і з відавочным задавальненьнем), я, жанчына — а значыць, і за мяне ён зараз будзе піць, — не адчуваю аніякай радасьці. Хутчэй, наадварот, гэтае фарысейства мяне палохае. Разумею, што такое параўнаньне дзеля яго будзе занадта, але кожны раз мне ўспамінаецца Нэрон, рымскі імпэратар, паэт, актор (актор!), які дзеля таго, каб прыйшла Муза (а яна дама капрызьлівая), мог спачатку спаліць свой горад, а потым напісаць оду гэтаму гораду. Няхай за маё здароўе пье хто заўгодна, толькі ня ён, не тыран!

Але я трохі адарвалася ад сваіх разважаў наконт ягонага дзяцінства. Хутчэй за ўсё, у дзяцінстве ён быў ціхмяным і непрыкметным дзіцем. Ён вельмі любіць спорт (бо там ня трэба думаць) і звычайна дзейнічае як спартсмэн на дыстанцыі. Спачатку трэба берагчы сілы, каб потым, блізка фінішу, вырвацца наперад. Тыран (ён і ў дзяцінстве быў тыранам, бо імі нараджаюцца), спачатку нічым асаблівым не вылучаўся. Гэта задавальняла настаўнікаў, а павінна было насьцярожыць. У гэтай ціхмянасьці ня было глыбіннасьці будучай геніяльнасьці. Гэта быў збор інфармацыі. Навука помсьціць. Ён сядзеў дзесьці ў самым аддаленым кутку і сачыў за сваімі крыўдзіцелямі. А яны былі! Былі сярод настаўнікаў, якія не заўсёды яго разумелі (адсюль ягоная няпрыязь, нават пагарда да ўсяго інтэлігентнага), сярод аднакласьнікаў, якія з-за дзіцячай непасрэднасьці маглі і пакрыўдзіць, каб праз хвіліну аб усім забыцца. А ён памятаў! Ягоная памяць запраграмавана толькі на тое, каб памятаць крыўду. Гэтая ўпэўненасьць у тым, што яго нехта хоча пакрыўдзіць, з цягам часу стала дамінальнай у ягоным характары. А яшчэ ўпэўненасьць ў тым, што крыўдзіцелям трэба помсьціць.

Ён артыст, і артыст вельмі нядрэнны. Колькі разоў, бачачы яго на экране тэлевізара, слухаючы ягоныя палымяныя прамовы, адна і тая-ж думка лезла мне ў галаву: які артыст! Не адзін дзень, напэўна, правеў ён каля люстэрка, уяўляючы сабе цэлыя натоўпы ўдзячных слухачоў. Ягоныя прамовы вытрыманыя ў стылі артыста-трагіка. Спачатку ціхі, разважлівы ўступ — падрыхтоўка. У гэтым уступе яшчэ нічога страшнага няма, але менавіта ў тым, што — няма, адчуваецца — зараз будзе. Потым паступова прамова пераходзіць у стан выкрываньня. Прыводзяцца факты, неабвяргальныя доказы віны. Ён ужо ня ціхі, не разважлівы. Ён гнеўны, бо ён — голас народу! Ягоны асабісты голас дрыжыць і калі-нікалі нават зрываецца ад хваляваньня. Галоўнае тут — не перабольшваць. І ён заўсёды ведае, калі трэба спыніцца. За гнеўнымі тырадамі пасьпяваюць абавязковыя абяцаньні справядліва разабрацца, пакараць вінаватых (абавязкова пакараць!) і нарэшце прамова зноў трапляе ў ціхае ручво. У гэтым месцы звычайна даюцца абяцаньні палепшыць дабрабыт свайго народу. Выразна чуецца боль і горыч, нават старанна прыхаваныя сьлёзы (а ці не кракадзілавыя?) за тое, як дрэнна, як цяжка жывецца ягонаму народу. І зноў выкрываньне вінаватых. Толькі не яго! Заўсёды знойдзецца нехта, на каго можна ўсё зваліць. І зноў абяцаньне прыняць меры і г. д. Сінусаідныя тырады могуць цягнуцца гадзінамі. Сапраўдны талент!

І яму вераць! Вераць у самую найлухцейшую лухту. Ён увесь час абяцае, увесь час не выконвае сваіх абяцаньняў. Гэта частка ягонай палітыкі. Чым больш ён абяцае, тым больш яму вераць. Ён адразу зразумеў, што трэба абяцаць. Сьветлая будучыня ў невядома які час — гэта, зразумела, добра, але гэтую будучыню трэба неяк атасамляць з рэальнасьцю. Ідэі ды ідэалы дарагія толькі адзінкам. Гэтыя адзінкі рухаюць прагрэс, але іх разумеюць пасьля (калі наогул разумеюць). Такой памылкі ён ня зробіць. Дзеля таго, каб народ цябе палюбіў, трэба як мага больш быць падобным на самага простага з простых, і зусім не абавязкава ведаць гэтаму самаму простаму, што ім пагарджаюць. Абяцаньні, асабліва першыя, павінны быць да банальнасьці простымі і даступнымі. Напрыклад, паабяцаць усім пажылым людзям па тэлевізару. Што можа быць прасьцей! Тэлевізар — гэта так рэальна! І ня вельмі дорага ў параўнаньні з пераўтварэньнем міру. Вядома, што ніхто ніколі тых тэлевізараў не дачакаецца, як і іншых такіх-жа "рэальных" і нібыта блізкіх даброт. Чаканьне гэтых даброт яму было патрэбна, каб на некаторы час атрымаць падтрымку і любоў некаторай часткі свайго народу. Дзеля гэтага-ж самага яму спатрэбіліся "гульні" ў нацыяналізм. На самым пачатку свайго ўзыходу ён быў "шчырым" прыхільнікам усяго нацыянальнага. Нават да нацыянальных сымбаляў, якія пасьля

аб'явіў па-за законам, ён спачатку адносіўся з прыхільнасьцю. Але потым за межамі закону апынулася родная мова, родная гісторыя, родная культура.

Мне не дае спакою думка, чаму ён гэтак непрыхавана ганьбіць усё нацыянальнае? І найперш, нацыянальную мову? Я шукаю і не магу знайсьці аналёгаў у сучаснай гісторыі, каб які-небудзь іншы тыран гэтак не прыймаў мову сваёй краіны і гісторыю сваёй краіны. Які іншы тыран казаў, што на мове краіны, якой ён кіруе, нельга стварыць нешта слушнае?! Чаму-ж яго гэтак раздражняе нацыянальная мова? Я прыйшла да адзінай высновы, якая мне падалася найбольш слушнай. Ён вырас у невялікай населенай кропцы, дзе народу жыло няшмат і дзе кожны ведаў адзін аднаго. Тут не магло быць сакрэтаў ад суседзяў. Народу тут было няшмат і ўсе яны карысталіся ня мовай вялікага суседа, каляніzатара гэтай краіны, як гэта было прынята ў вялікіх гарадах, а менавіта сваёй нацыянальнай. На гэтай мове яго ў дзяцінстве называлі байструком, прыблудкам. Гэта надзвычай крыўдзіла яго, прымушала шукаць вінаватых у сваёй непаўнавартасьці. У рэшце рэшт ён знайшоў каго вінаваціць. Гэта была тая мова, на якой ён чуў абразы ў свой бок. Атрымаўшы ўладу, ён пачаў помсьціць сваім крыўдзіцелям. Ён ці не адзіны з усіх тыранаў, на прыкладзе якіх ён вучыўся і якім тайна зайздросьціў пэўны час, адмовіўся ад свайго народу. Ён — галоўны гісторык, галоўны літаратар, галоўны рэжысэр. Ён — бацька!

Але-ж праблема бацькоў і дзяцей узьнікла нашмат раней, як была акрэсьлена клясыкам. І яна не зьнікла дагэтуль. Пакуль будуць тыя ды іншыя, яна будзе заставацца актуальнай. Не заўсёды "дзеці" слухаюцца "бацькоў". Надыходзіць час, калі не дапамагаюць ні абяцаньні, ні запалохваньні, ні нават рэпрэсіі. Вось тут мае месца спадзяваньне, што "дзецям" абрыдне нарэшце тыранія. Яны ўспомняць пра той глыток свабоды і зноў захочуць яго глынуць. А не, дык можна захлыснуцца навекі.

Ён, тыран, згубіўся ў часе. Бо ягоныя куміры — даўно гнілыя нябожчыкі. Нават ад памяці аб іх тхне гнільлю і смуродам. Ён шукае таго, чаго даўно ўжо няма і ня можа быць. Ён нагадвае пачвару з дзіцячай казкі, якая некалі была страшнай да жудасьці, а зараз стала сьмешнай. Наогул, яго можна толькі пашкадаваць, бо ўсе іншыя даўно ўжо выраслі, пачалі займацца сваімі дарослымі справамі, а ён застаўся ў сваім няшчасным дзяцінстве...

*Рыгор БАРАДУЛІН:*

# "Я пішу вершы, але ніколі не заяўляю, што я паэт"

***З Барадуліным цяжка рабіць юбілейнае інтэрв'ю. Ён мала распавядае пра сябе, больш гаворыць пра лёс Беларусі, беларускай мовы, беларускай душы. Ажыўляецца, калі гаворыць пра сваю ўнучку Дамінічку. І шчыра прызнаецца, што калі б яму прыйшлося пачаць сваё жыццё спачатку, ён пражыў бы яго так, як пражыў...***

**— З якім настроем сустракаеце юбілей?**

— 65 — крыху гаркаватая дата. Кожныя пяць гадоў думаеш, што ты ўсё бліжэй да фінішу.

**— Нейкія сумныя ў Вас думкі...**

— Асабліва няма чаму радавацца. Уся атмасфера ў нашай краіне не наладжвае на вясёлы лад.

Сумна таму, што прадаецца краіна, вынішчаецца ўсё беларускае, вынішчаецца беларуская мова, вынішчаецца душа народа. Але ўсё роўна, як кажуць: паміраць збірайся, а жыта сей. Трэба спадзявацца, што нешта зменіцца да лепшага, як некалі ў часы "Нашай нівы" пісалі: "Загляне сонца і ў наша ваконца". Я думаю, што загляне. Бог любіць Беларусь. Ён даў ёй найвялікшыя выпрабаванні, таму што Беларусь адна з першых стала бязбожніцай. А за грахі, мне здаецца, мы ўжо заплацілі спаўна.

**— Што пажадаеце сабе 24 лютага?**

— Вядома, што ў маім узросце можна пажадаць самому сабе: папрашу ў Бога здароўя і святлейшых дзён.

**— З кім будзеце адзначаць юбілей?**

— З жонкай, любімай унучкай Дамінічкай і катом Міронам. Можа, дачка прыедзе з Пецярбурга.

**— А сябры прыйдуць да Вас?**

— Сапраўдныя мае сябры, на жаль, пакінулі нашу грэшную зямлю. Уладзімір Караткевіч, Міхась Стральцоў... З сапраўдных і шчырых застаўся толькі Васіль Быкаў. Гэта мой зямляк, мой старэйшы таварыш, мой брат.

Увесь час я пісаў яму ў Хельсінкі, ён часта тэлефанаваў мне. Калі апошні раз Васіль Уладзіміравіч прыязджаў у Мінск, мы сустракаліся два разы. Ён быў вельмі загружаны, да яго літаральна праз фортку лезлі. Перад ад'ездам Быкаў патэлефанаваў мне і апошняе, што ён сказаў, гучала так: "Толькі б не было бяды...".

Зараз бачыце, што адбываецца ў краіне: Быкава распачалі таптаць. Амаль усе сродкі масавай інфармацыі — у руках кіраўнікоў калгаснага разліву, і яны вяргечуць, што хочуць. Быкаў усё гэта чытае, а адказаць у яго няма магчымасці. Ды і што адказваць на памыі? Дзякуй Богу, што Васіль Уладзіміравіч далёка адсюль, так ён больш пражыве.

**— Сёння Вы працуеце?**

— Афіцыйна — не. Сяджу дома і пішу вершы. Лірычныя, гумарыстычныя, для дзяцей, займаюся перакладамі. Пераклаў нядаўна кнігу шведскага паэта Крыстофера Леандоэра. Перакладаў шмат да юбілею Адама Міцкевіча. Перакладаю п'есы для беларускіх тэатраў.

**— Вы паэт асаблівага кшталту — пра такіх звычайна кажуць: талент ад Бога... Ці думалі Вы, што калі-небудзь станеце вядомым, вашы вершы будуць вывучаць у школе?**

— Я заўсёды гавару, што вядомасць — рэч адносная. На адной вуліцы цябе ведаюць, на другой — не...

Называць сябе паэтам вельмі адказна. Я пішу вершы, але ніколі не заяўляю, што я паэт. Вершы або прыходзяць, або не. Павінна быць боскае натхненне. У савецкі час была тэорыя, як рабіць вершы. Але рабіць вершы — гэта нават гучыць абразліва. Можна рабіць цэбар, труну. Рамесніцтва да паэзіі не стасуецца.

**— У якія часы Вам лепш пісалася?**

— Ва ўсе часы пісалася нармальна.

**— Пад заказ калі-небудзь пісалі?**

— Пісаў вершы для песень.

**— Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч часта выступаюць у перыядычным друку з адкрытай крытыкай існуючай улады. А Барадуліна не чуваць. Гэта значыць, што Вы прызвычаіліся да цяперашняй дзяржаўнай палітыкі ці пачалі падзяляць погляды кіраўніцтва краіны?**

— Прызвычаіцца да цяперашняй улады нельга. Я стараюся яе проста не бачыць.

Я лічу, што для паэта самае галоўнае — пісаць. Я ў палітыцы задзейнічаны на столькі, на колькі магу. Асноўная мая палітычная дзейнасць, калі яе можна назваць палітычнай, абмяжоўваецца БНФ.

Пісаць прымітыўную, бяззубую публіцыстыку я не магу. Я лічу, што гэта прафанацыя ідэі. Некаторыя нават у паэзіі апускаюцца да самага нізкага ўзроўню. Гэта прыносіць толькі шкоду. Павінна быць высокая планка паэзіі, высокая планка палітычнага мыслення, высокая планка публіцыстыкі.

**— Некалькі гадоў таму Вы сказалі, што адчуваеце сябе ў сваёй талерцы, калі ўдзельнічаеце ў акцыях БНФ. З таго часу ў арганізацыі адбылося шмат змен. Як Вы цяпер ставіцеся да Беларускага народнага фронту?**

— Я па-ранейшаму з'яўляюся сябрам БНФ, зараз — у Партыі БНФ Вінцука Вячоркі.

Я ўпэўнены ў тым, што над расколам БНФ папрацавалі спецслужбы. Гэта і так беспрэцэдэнтны, унікальны выпадак, што арганізацыя пратрымалася 10 гадоў. Я думаю, што з часам усё наладзіцца. Памылкі бываюць ва ўсіх. Не памыляецца толькі той, хто нічога не робіць. А Зянон Пазьняк быў і застаецца сімвалам і сумленнем беларускай нацыі. Толькі за тое, што ён адкрыў праўду пра Курапаты, яму трэба паставіць помнік.

**— Якое сёння Ваша матэрыяльнае становішча?**

— Жыву, як усе.

**— І ўсё ж такі, якая пенсія ў народнага паэта Беларусі?**

— Невялікая, я нават не памятаю, колькі атрымліваю. Пенсія па прынцыпе послаўкі: выпіў болей, чым мог, але меней, чым хацеў.

**— На што тады жывяце? На ганарары?**

— Якія там ганарары? З ямінкі на горку.

**— Якая кніга ляжыць сёння на Вашым стале?**

— Апошнім часам я многа перачытваю "Біблію" — поўнае Нью-Йоркскае выданне ў цудоўным беларускім перакладзе. Зараз чытаю Уладзіміра Васілевіча — збор прыказак, прымавак і павер'яў у трох тамах.

Многа чытаю перыёдыкі. Выпісваю "Народную волю", "Полымя", "Спадчыну".

**— Вы веруючы чалавек?**

— Вядома. Я уніят.

**— У камуністычнай партыі ў свой час знаходзіліся?**

— У піянеры я не ўступаў, бо мама гаварыла, што ў гэтай арганізацыі толькі бязбожнікі. У камсамол быў вымушаны ўступіць, інакш я б не паступіў у інстытут. У камуністычнай партыі не быў ніколі.

Калі ў савецкія часы парторг Саюза пісьменнікаў пачынаў мяне данімаць, чаму я не ўступаю ў партыю, я жартаваў, што Пётр Усцінавіч Броўка абяцаў даць мне рэкамендацыю, толькі калі мы выпівалі, а цвярозы ён нічога не гаварыў. Аднак на мяне ціснулі зверху. Асабліва напярэдадні пяцідзесяцігоддзя. Да мяне пасылалі людзей з ЦК, я меў размову і з інструктарам, і з загадчыкам аддзела... Я гаварыў: давайце адзначу 50-годдзе, а пасля падумаю. А пасля я ўжо казаў: куды я буду паступаць, усе скажуць, што Барадулін уступіў у партыю дзеля кар'еры. Так і выкруціўся.

**— А Вы не шкадуеце, што Ваш лёс так склаўся?**

— Ні ў якім разе. Калі б прыйшлося пачынаць ўсё спачатку, я б так і пачынаў. Я, хоць гэта і гучыць высакапарна, ішоў гэтым шляхам не за грошы, а за ідэю. Беларускасць у мяне ў крыві. Яна перададзена мне па генетычным кодзе, перададзена маёй мамай.

Мая маці — простая беларуская жанчына. Да вайны была хатняй гаспадыняй, а пасля працавала швачкай. Бацька загінуў у блакаду, і маці гадавала мяне адна. Яна была выключным, геніяльным філолагам. Яна, відаць, мову ведала лепш, чым увесь Інстытут мовы Акадэміі навук. Прыказкі, прымаўкі, прыбабунькі, казкі, песні... Частка прымавак і вясёлых апавяданняў, якія расказала мне маці, выйшла ў зборніку "Здубавецце".

**— Ваша самае запаветнае жаданне?**

— Каб Беларусь была Беларуссю.

**— Можа, пачытаеце што-небудзь са свайго апошняга...**

— З вялікай радасцю.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

КУРС ДОЛАРА




Рыгор БАРАДУЛІН

# Пяцігодка руйнаваньня

Некалі камуністыя плянавалі пяцігодкі й рапартавалі Крамлю пра іх выкананьне. Праўда, у народзе пасвойму ўспрымалі гэныя пяцігодкі. І пялі:

Бруха гола, лапці ў клетку,
Выканаем пяцілетку.

Усё было пабудавана на рапартах, разьмерана на пяцігодкі. І цяперашнія нэо, цяперашнія ўладатрымцы ў Беларусі могуць зноў-такі, як і ў тыя, на жаль, недалёкія гады, рапартаваць Крамлю, што пяцігодка па зьнішчэньні ўсяго беларускага, усяго нацыянальнага, пасьпяхова, нават датэрмінова выканана.

Усё беларускамоўнае выцесьнена з тэлерадыё, з прэсы, са справаводзтва, аж да шыльдаў на крамах.

Кавярні ўжо называюцца па-купецку, па-расейску. Была «Хвілінка», стала «Печки-лавочки», была «Траецкая», стала «Разгуляй», была «Тарас на Парнасе», стала «Георгиевское» — усіх заменаў не пералічыш. Прывучаюць і вока й вуха беларуса забыцца на ўсё сваё, наскае, крэўнае, каб беларус не пачуваў сябе ў Беларусі як дома.

Так званае дзьвюхмоўе нагадвае паштэт па-польску, конь з курапаткай, у якім усяго пароўну, напалову — адзін конь, адна курапатка.

Пагалоўна, павальна зачыняюцца і без таго рэдкія беларускамоўныя клясы. Усё гэта іншым словам як этнагенацыд не назавеш.

Пад час рэфэрэндуму пісаў я такую дурноту:

Кот праводзіў рэфэрэндум,
Клапаціўся пра мышэй.
Мышы верылі легендам
І пішчэлі ўсё цішэй.

Пасьля рэфэрэндуму й пішчэць льга толькі парасейску ці на трасянцы з паўночна-ўсходнім вымаўленьнем.

Пра сьцяг і казаць не даводзіцца. Падцыраваны, савецкі, некалі дазволены й зацьверджаны ў Крамлі. Хоць улада тутэйшая й спавядае панславізм, а колеры сьцягу не славянскія, я ўжо не кажу, што яны не беларускія.

Відаць, нас мала перылі,
Што цягне да імпэрыі
Пад сьцягам мусульманістым,
З палітбюро іваністым.

Гэта не сакрэт, што цяперашні герб у народзе называюць «капустай». Гэта ім замянілі сьвятую для кожнае беларускае душы «Пагоню». А мяноўна «Пагоня» й Бел-Чырвона-Белы сьцяг асьвечаныя вякамі, амытыя крывёю прашчураў нашых у барацьбе за волю, за Беларусь непадлеглую.

Мне асабіста цяперашні герб нагадвае прычоску аднаго вядомага чалавека. Такія ўжо асацыяцыі выклікае ён у мяне. Гэта не абраза, а маё ўспрыняцьце. На асацыяцыі і ўспрыняцьце пакуль яшчэ афіцыйнае забароны няма.

Штодня, пасьпешліва, па-віжоўску, нашая нацыянальная сымболіка выкарчоўваецца са сьвядомасьці. Ажно чакаеш, што неўзабаве будуць новыя ініцыятывы, па-бальшавіцку рашучыя.

Няма сумневу,
Ён даўно гатоў,
Указ чарговы,
Як заўсёды, сьмелы.
Што трэба перафарбаваць буслоў,
Бо кожны бусел
Бел-чырвона-белы.

Фарбавалі ж пры камуністых траву да прыезду партыйных паханаў...

## *Барацьба за дэмакратыю ў Беларусі завершыцца перамогай –*

***сцьвярджаюць у газэце Wall Street Journal супрацоўнікі сэнату ЗША Марк Тысэн ды Іан Бжэзінскі, якія нядаўна адведалі Беларусь.***

Беларусь можа вярнуцца на шлях дэмакратыі – пад такім загалоўкам WSJ зьмяшчае падарожныя нататкі двух супрацоўнікаў Камітэту замежных дачыненьняў амэрыканскага Сэнату Марка Тысэна ды Іана Бжэзінскага.

Прыезд у Менск нагадвае вяртаньне ў стары СССР. Помнікі Леніну і заснавальніку КГБ Фэліксу Дзяржынскаму усё яшчэ горда ўзвышаюцца на плошчах і вуліцах сталіцы, людзі стаяць у чэргах, поўна міліцыянтаў. Беларусь нават не паклапацілася зьмяніць імя КГБ – як сказаў адзін дыплямат: Беларусь ператварылася ў Парк савецкага пэрыяду.

Аднак брутальнасьць рэжыму Аляксандра Лукашэнкі цалкам сапраўдная. Апошняе вынаходніцтва рэжыму – зьнікненьні. WSJ згадвае імёны Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара і ягонага сябра Анатоля Красоўскага, прыводзіць прыклады шматлікага судовага перасьледу і запалохваньня апазыцыянэраў, таксама згадваюцца суды Міхаіла Чыгіра і Міколы Статкевіча.

Беларусь, пішуць Тысэн і Бжэзінскі, хутка ператвараецца ў Кубу ў Эўропе – хваравітую выспу тыраніі ў рэгіёне новых і сталых дэмакратычных дзяржаваў. Як на Кубе, уся ўлада сканцэнтраваная у руках лідэра з маніяй велічы, схільнага да шматгаддзінных прамоваў і ірацыянальных выбухаў. Як на Кубе, дзяржава трымае пад кантролем працаўладкаваньне, жыльлё, адукацыю і ахову здароўя. Лукашэнка можа канфіскаваць маёмасьць паводле ўласнай прыхамаці, ён таксама ўсталяваў 5-гадовае пакараньне турмой за абразу прэзыдэнта. Тысэн і Бжэзінскі адзначаюць, што нават сымболіка пратэстаў на Кубе і ў Беларусі падобныя. Кубінцы, напрыклад, пагладжваюць бараду як намёк на рэпрэсіі Кастра; Менск завешаны наклейкамі з карыкатурамі буйных вусоў і лысіны Лукашэнкі.

Аднак ёсьць адна істотная раозьніца. Пасьля распаду СССР, у Беларусі было 4 кароткія гады дэмакратыі. І за гэтыя чатыры гады грамдзянская супольнасьць у Беларусі пусьціла карані і ня хоча паміраць ціхай сьмерцю. Незалежныя газэты змагаюцца за права выходзіць, нягледзячы на перасьлед, запалохваньні, адвольныя штрафы і арышты. Кіраўніцтва распушчанага Лукашэнкам парлямэнту адмаўляецца надаваць легітмнасьць ягонаму незаконнаму рэжыму, мноства НГО змагаюцца за сваё месца ў грамадзтве.

Нягледзячы на пагрозу дубінак унутраных войскаў, апазыцыя пастаянна зьбірае тысячы людзей на на антыўрадавыя дэманстрцыі. 25 сакавіка сілы бясьпекі зьбілі і разагналі масавую дэманстрацыю, больш за 500 чалавек былі затрыманыя, а 26 красавіка людзі выйшлі на вуліцы зноў.

Усё гэта сьведчыць, што барацьба за дэмакратыю тут урэшце завершыцца перамогай. Беларуская апазыцыя арганізаваная і прыклала намаганьні каб пакінуць убаку ўсе разыходжаньні, каб выступіць адзіным фронтам. WSJ цытуе словы старшыні партыі БНФ Вінцука Вячоркі пра ўрокі, якія апазыцыя засвоіла з сэрбскага вопыту, дзе ўнутраная барацьба аслабіла апазыцыю.

На парадку дня апазыцыі, адзначаюць Марк Тысэн і Іан Бжэзінскі, – свабодная, незалежная, арыентаваная на Захад Беларусь, якая разам з суседзямі зойме месца ў Эўрапейскай дэмакртычнай супольнасьці. Лукашэнка, наадварот, зьвязвае надзеі з Усходам. Ён падпісаў саюзную дамову з Масквой. Ён адкрыта змагаўся за пасаду прэзыдэнта Расеі, пакуль Ельцын не перадаў уладу Пуціну.

Крах крамлёўскіх мараў Лукашэнкі дае Захаду магчымасьць ўратаваць беларускую дэмакратыю і незалежнасьць. Аднак дагэтуль, нягледзячы на гераічную працу амэрыканскай амбасады ў Менску, заходнія сталіцы – у тым ліку Вашынгтон – не зьвярталі ўвагі на спаўзаньне Беларусі да тыраніі.

Гэта грубая памылка. Дазволіць Маскве паглынуць незалежную дзяржаву азначае толькі падагрэць яе апэтыт да аднаўленьня старых савецкіх межаў, стварыць дэстабілізуючы прэцэдэнт для іншых новых дэмакратычных дзяржаваў рэгіёну – Украіны, Літвы, Латвіі і Эстоніі. Навязваньне расейскае гегеманіі ў Беларусі таксама пашкодзіць дэмакратыі ў Расеі.

Больш блізкая пагроза – ператварэньне Беларусі ў падстаўную дзяржаву для расейскіх зьдзелак з краінамі кшталту Іраку і Ірану, каліб Беларусь займалася бізнэсам з гэтымі краінамі, а Масква заставалася - б фармальна убаку. Гэта ўжо адбываецца. WSJ спасылаецца на публікацыю ў ангельскай Sunday Telegraph, дзе паведамлялася пра кантракт мадэрнізацыі супрацьпаветранай абароны на 90 млн. даляраў, які Беларусь заключыла з Іракам. Такмі чынам павялічваецца магчымасьць Іраку атакаваць амэрыканскія самалёты, што кантралююць зону, забароненую для палётаў у Іраку.

Што можа зрабіць Захад, пытаюцца Марк Тысэн і Іан Бжэзінскі. І адказваюць: дапамагчы апанэнтам Лукашэнкі прарваць інфармацыйную блякаду шляхам падтрымкі незалежных газэтаў і павелічэньня радыёвяшчаньня. Аказваць прамую падтрымку апазыцыі у той самы спосаб, як дапамагалі некалі "Салідарнасьці" ў Польшчы. Захад павінен не прызнаваць легітымнасьць рэжыму і не прызнаваць пагадненьні, падпісаныя рэжымам – у тым ліку і саюзную дамову з Расеяй.

На жаль, большасьць эўрапейскіх краінаў занялі ганебную пазыцыю прызнаньня рэжыму. Нямеччына і Італія нават прынялі дзеля выкарыстаньня у якасьці дыпляматычных рэзыдэнцыяў маёмасьць, сканфіскаваную ў арыштаванага дысыдэнта, які сядзіць у турме.

Заходняя прысутнасьць павінна быць прывязаная да канкрэтных рэформаў, уключна з вызваленьнем палітвязьняў, поўнай справаздачы у справе зьніклых людзей, свабодных і справядлівых выбараў.

І ў рэшце рэшт, заходнія саюзьнікі павінны прымусіць Расею паважаць незалежнасьць Беларусі як умову ўзаемадачыненьняў з Захадам. Расейскі спрактыкаваны і напорысты новы прэзыдэнт будзе імкнуцца скарыстаць з тае школы, якую нарабіў сувэрэнітэту Беларусі А. Лукашэнка. Калі гэтае памкненьне ня будзе спыненае, Захаду наканавана мець справу з таталітарнай дзяржавай – сатэлітам Расеі на мяжы НАТА

RFE/RL Пераклаў **Аляксандар Лукашук**

## Электарат расчараваўся ў сваім абранніку і пачынае скасоўваць «шлюб»

Нішто не вечнае пад Месяцам, асабліва ж рэйтынгі народнага даверу. Падобна таму, як маладзік няўмольна ператвараецца ў ветах, так саслабляюцца і знікаюць у нашай непраглядной эканамічнай цемры спадзяванні, давер і прыхільнасць электарата, які прывёў А.Лукашэнку на пасаду прэзідэнта. Звычныя спасылкі ў прамовах А.Лукашэнкі на галасы выбаршчыкаў 1994 года як на нязменны падмурак ягонай улады сёння ўжо не адпавядаюць рэчаіснасці. Абяцаныя змены да лепшага не адбыліся, наадварот, сацыяльнае становішча людзей у параўнанні з 1994 годам моцна пагоршылася, што і дае падставы думаць пра іншага абранніка. Пра гэта сведчаць вынікі праведзенага напрыканцы красавіка апытання каля 1.500 рэспандэнтаў па рэспубліцы і 250 па сталіцы.

Дадзеныя гэтага апытання даюць ясна акрэсленны партрэт сённяшніх настрояў электарата ў стаўленні да А.Лукашэнкі. Першы малюнак дэманструе, як гэта залежыць ад узросту.

Гэтыя агульныя лічбы раскладаюцца па ўзроставых групах з паказальнай поўнай стратай даверу да А.Лукашэнкі сярод моладзі і найбольш працаздольных слаёў насельніцтва.

Чатыры нулі ў сталіцы і нязначныя лічбы падтрымкі ў цэлым па рэспубліцы па найбольш колькасных і перспектыўных групах падобныя на сумныя ўдары званоў.

| | Беларусь | Мінск |
|---|---|---|
| Пераканаyя працаўнікі | 30,3% | 49,5% |
| Пераканаyя прыхільнікі | 15,5% | 5,5% |

| Пераканаyя працаўнікі | Беларусь | Мінск |
|---|---|---|
| 16-19 | 37,9% | 67,6% |
| 20-24 | 33,5% | 44,8% |
| 25-29 | 39,8% | 66,0% |
| 30-39 | 38,4% | 57,6% |
| 40-49 | 32,4% | 47,7% |
| 50-59 | 26,2% | 42,7% |
| 60 і болей | 17,0% | 35,0% |

| Пераканаyя прыхільнікі | Беларусь | Мінск |
|---|---|---|
| 16-19 | 8,5% | 0,0% |
| 20-24 | 5,2% | 0,0% |
| 25-29 | 9,3% | 0,0% |
| 30-39 | 8,4% | 0,0% |
| 40-49 | 13,3% | 7,8% |
| 50-59 | 19,7% | 15,3% |
| 60 і болей | 29,1% | 15,2% |

| Пераканаyя працаўнікі | Беларусь | Мінск |
|---|---|---|
| Працаўнікі недзяржаўнага сектара | 51,9% | 71,9% |
| Працаўнікі дзяржаўнага сектара | 31,0% | 45,7% |
| Навучэнцы | 37,0% | 55,3% |

| Пераканаyя прыхільнікі | Беларусь | Мінск |
|---|---|---|
| Працаўнікі недзяржаўнага сектара | 31,0% | 0,0% |
| Працаўнікі дзяржаўнага сектара | 13,2% | 5,8% |
| Навучэнцы | 8,2% | 0,0% |

Мала чым розняцца ад гэтых паказчыкаў вынікі апытання рэспандэнтаў па іх сацыяльным статусе. Адносіны да А.Лукашэнкі як да асобы, адказнай за прыняты і здзейснены эканамічны курс, сведчаць, што шырокая думка ўжо асэнсавала вытокі сацыяльных бедстваў.

У самым галоўным – магчымасці мець працу, зарабляць, утрымоўваць сям'ю, задавальняць сацыяльныя патрэбы – палітыка А.Лукашэнкі і ўрада не падмацоўваецца даверам і таму апрыорна асуджаная на правал, нават без уліку таго, што наш «рынчны сацыялізм» не стасуецца з «рынкам» Расіі. Звяртае на сябе ўвагу мізэрная колькасць прыхільнікаў А.Лукашэнкі сярод навучэнцаў, гэта значыць сярод тых, хто прыйдзе ў актыўнае грамадскае і эканамічнае жыццё заўтра.

Увогуле ў залежнасці ад адукацыі найвялікшы працэнт прыхільнікаў А.Лукашэнкі выяўляе электарат з пачатковай адукацыяй (38,1) і найменшы (3,4%) — асобы з вышэйшай ці незакончанай вышэйшай адукацыяй. Працўнікаў А.Лукашэнкі з вышэйшай адукацыяй у 11,5 разоў болей, чым яго прыхільнікаў з такім жа дыпломам. У Мінску апытанне сярод добра адукаваных слаёў не выявіла прыхільнікаў першага прэзідэнта наогул, але паказала, што пераканаyя яго працаўнікі складаюць 47,5%.

Варта дадаць, што па ўмовах апытання пераканаyмі прыхільнікамі А.Лукашэнкі лічацца тыя, хто адначасна гатовы прагаласаваць за яго ізноў на выбарах прэзідэнта РБ і адначасна як за прэзідэнта «саюзнай дзяржавы». Адпаведна пераканаyя працаўнікі – гэта асобы, якія трымаюцца адваротнага погляду па гэтых пытаннях і не аддадуць свой голас за А.Лукашэнку ні пры якіх умовах.

Палова рэспандэнтаў, якая пры адказе на кожнае пытанне вагаецца ці асцярожна выказвае сапраўднае меркаванне, лічачы, што гэта ў сённяшніх варунках небяспечна, ці яшчэ спадзяецца на нейкі эканамічны цуд. Тэндэнцыя памяншэння гэтай часткі электарата нагэтулькі відавочная, а магчымасць цуду нагэтулькі мізэрная, што паслабленне прыхільнікаў і павелічэнне колькасці працўнікаў палітыкі А.Лукашэнкі сведчыць, што «шлюб», афармлены ў 1994 годзе, страціў прывабнасць і можа быць скасаваны юрыдычна на выбарах. Магчыма, гэта галоўная прычына, па якой яны не праводзяцца.



### Расейскі начальнік павучае...

"У Амэрыку, як ведама, каго толькі ні панаехала — і чорныя і белыя, і ўсе яны амэрыканцы. Так і мы — расіяне, беларусы і украінцы — адзін народ і адна сям'я..". Так думае дзяржсакратар Саюзу Беларусі і Расеі Павал Барадзін — чалавек з нячыстымі рукамі, імпэрыялістычнымі замашкамі і аграніченаю інтэлігентнасьцю. Цікава чаму ён у гэту адну сям'ю не залічыў палякаў, чэхаў, сэрбаў ды іншых? Відаць папросту забыўся.

# СПАТКАНЬНЕ з МІНІСТРАМ ІМІГРАЦЫІ АЎСТРАЛІІ

Стараньнем Фэдэральнае Рады Б.А.А. адбылося спатканьне з міністрам іміграцыі Аўстраліі паважаным сп. Філіпам Радок. Гэтая падзея адбылася 5 траўня гэтага году. Дэлегацыя ад Беларускага грамадзтва Мэльбурна складалася з 4-х асобаў — сп. Аўгена Грушы, старшыні Фэдэральнай Рады, сп. Алега Мароза, заступніка старшыні Ф. Р., а. Аляксандра Кулакоўскага, настаяцеля Мэльбурнскае парфіі БАПЦ і спд. Веры Гэрман.

Галоўнай тэмай дыскусіі з міністрам іміграцыі было жаданьне, каб Аўстралія прызнавала статус палітычных бежанцаў для усіх тых беларусаў, якія не па сваёй волі муселі пакінуць Беларусь і шукаць прытулку за межамі Бацькаўшчыны на чужыне.

Міністар Радок прыняў Беларускую дэлегацыю вельмі добра. Дэлегацыя ўручыла міністру ліст у ангельскай мове і брашурку пра Беларусь. Міністар Радок тут-жа ў голас прачытаў наш ліст і брашурку ды сказаў: я знаю, што вы /гэта значыць беларусы/ зьяўляецеся асобнай нацыяй.

Нас вельмі зьдзівіў факт, што міністр Радок меў больш інфармацыі пра Беларусь чым мы, бо падаў нам апошнія статыстычныя весткі, пачынаючы з 1994 г. /калі да ўлады прыйшоў А. Лукашэнка/ з Беларусі ўцякло ў Эўропу ўсяго 1200 асобаў, якія зарэгістраваліся ў Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў, як палітычныя ўцекачы-бежанцы.

З гэтых уцекачоў вельмі малая колькасьць падала заяву на эміграцыю ў Аўстралію. За гэты час, да сёньня, Аўстралія прыняла ўсяго 17 асоб з Беларусі, па "спэцыяльнай гуманітарнай прапанове", /гэта азначае, што нова прыбылыя эмігранты з першага дня прыбыцьця ў Аўстралію поўнасьцю забясьпечваюцца дзяржавай усім неабходным для поўнага ўладкаваньня на новай зямлі/. З гэтых 17 асобаў было 10 эвангалістаў, якія былі прасьледаваныя (?!) ў Беларусі, ды 7 іншых асобаў.

Самае галоўнае, што міністр іміграцыі сказаў гэта тое, што асобы якія падаюць заявы на эміграцыю ў Аўстралію мусяць фактычна пацьвердзіць пра сваё палітычнае ганеньне ў Беларусі. Падаваць дакладныя весткі пра свае выпадкі прасьледваньня і зазначаць прозьвішчы і адрасы сьведкаў, якія-б маглі падцьвердзіць іхную версію падзеяў у Беларусі. Міністр таксама дадаў, што сапраўдных палітычных бежанцаў з Беларусі, Аўстралія не адкідае. Але вельмі шмат людзей гаворацсь, што яны палітычныя ўцекачы, а на самай справе яны эканамічныя эмігранты, якія шукаюць лепшага жыцьця ў Аўстраліі.

Гутарка з міністрам іміграцыі Аўстраліі трывала больш як 45 хвілін.

Аўген Груша,
старшыня Фэдэральнай Рады.

# Хто паедзе на алімпіяду ў Аўстралію?

Нягледзячы на тое, што да алімпіяды ў Сіднэі застаецца яшчэ шмат часу, кіраўнік Беларусі Аляксандар Лукашэнка ўжо сёньня ведае, колькі беларускія прадстаўнікі павінныя здабыць медалёў. Міністар спорту Беларусі Яўген Воршын паведаміў, што беларускія спартоўцы атрымаюць на алімпіядзе найменш 15 медалёў, у тым ліку 2 альбо 3 залатыя. Права ўдзельнічаць у гульнях мае 150 беларускіх спартоўцаў. Аднак пакуль што невядома, ці ўсе яны паедуць у Аўстралію. Аляксандар Лукашэнка загадаў надрукаваць сьпіс спартоўцаў і трэнэраў у дзьвюх спартыўных газэтах, каб - як паведаміла беларускае тэлебачаньне - з дапамогаю грамадзтва выбраць прадстаўнікоў на алімпіяду. Усё павінна адбывацца згодна з правіламі дэмакратыі - падкрэсьлівала тэлебачаньне. Аляксандар Лукашэнка на сустрэчы са спартыўнымі дзеячамі сьцьвердзіў, што нават у часы Савецкага Саюзу дзяржава не дапамагала так спартоўцам, як цяпер гэта робяць беларускія ўлады.

Ходзяць чуткі, што Лукашэнка і Замяталін (два самыя заядлыя ворагі ўсяго беларускага) зьбіраюцца ехаць у Аўстралію…

# Творы мастака з Менску – ў Чыкага

У апошнія гады, на жаль, значна зьменшылася інфармаванасьць беларускай дыяспары аб тым, што адбываецца на радзіме ў сучаснай беларускай літаратуры і мастацтве. Звязана гэта, безумоўна, з неспрыяльнай усяму беларускаму нацыянальнай палітыкай удады, з далейшымі працэсамі абмежаваньня сферы дзеяньня мовы, культуры, усяго духоўнага. Таму кожнае непасрэднае знаёмства з тымі ці іншымі сучаснымі мастацкімі дасягненьнямі, створанымі на бацькаўшчыне, набывае для беларусаў за мяжой асаблівую цікавасьць.

Ужо болей за год прауце ў прыгожым паўночным чыкагскім прыгарадзе Вілмэце мастацкая галерэя-салён Anastasia. Нядаўна тут адкрылася выстава твораў вельмі цікавага маладога мастака з Менску Дзмітрыя Зянковіча. Скончыўшы Беларускую Акадэмію мастацтваў у 1993 годзе, ён даволі рана знайшоў сябе, свой адметны мастакоўскі стыль. Тым не меней апошнія карціны Дзімітрыя Зянковіча сьведчаць і аб тым, што творчыя пошукі ў гэтага мастака няспынна працягваюцца.

Ён малюе незвычайныя кампазіцыі, на якіх усе персанажы і рэчы асяродьдзя набываюць незвычайныя абрысы. Звыклыя прапорцыі парушаюцца, але гэта робіцца, каб падкрэсліць, па-першае, натуральную прыгажосць формаў і ліній любой натуры і, па-другое, даць штуршок для роздуму аб сэнсе існаваньня ўсяго жывога, аб прызначэньні чалавека на зямлі, аб той меры трывог і душэўных пакут, якія выпадаюць на яго долю. "Кампазіцыя", "Мелёдыя", "Гульня", "Мара", "Шпацыр", "Аголеная", – яны вельмі простыя, назвы палотнаў Дзімітрыя Зянковіча. Фантастычны, амаль казачны матыў у гэтых творах арганічна пераходзіць у тэатральны, – становіцца зразумелым, што мастак ідзе ад батлейкі, ад традыцыйна беларускага народнага тэатру з яго формамі, яго мізансцэнамі, з яго рытмамі і яго эмацыянальнай насычанасьцю. Вядома, дадаюцца сучасныя вастрыня, каляровыя адценьні, каларыт… Нагадваецца шэкспіраўскае: "Жыцьцё – тэатр, і людзі ў ім акцёры". І яшчэ, гледзячы на творы Дзімітрыя Зянковіча, думаецца, што яны – у рэчышчы плённых традыцый той зямлі і яе людзей, у рэчышчы Драздовіча, Шагала, іншых вядомых майстроў.

Творы беларускага мастака пабачылі ўжо ў Нямеччыне, Францыі, Галандыі, Японіі. Упэўнены, што і ў нашай краіне яны знойдуць удзячных гледачоў і пакупнікоў.

Ванкарэм Нікіфаровіч



На рэпрадукцыі: Дзмітры Зянковіч. "Кампазіцыя з кветкай", 1999 г.

# Антысэмітызм пад крыжам РПЦ

Вялікі 7-мэтровы крыж над менскай кнігарняй «Православная книга» відаць здалёк. Цудоўныя вітражы зь Дзевай Марыяй і Ісусам Хрыстом разьмешчаныя зьлева і справа ад уваходных дзьвярэй. Кіраўнікі Расейскае Праваслаўнае Царквы патрыярх Алексій і мітрапаліт Філарэт, вялікія партрэты якіх знаходзяцца ў холе кнігарні, нібыта вітаюць наведнікаў. У гандлёвай залі — іконы, царкоўнае начыньне, вопратка сьвятароў, аўдыё- і відэакасэты, кнігі.

Болей за ўсё людзей — у кніжным аддзеле. Сярод звычайных кніг асаблівае месца займаюць антысэміцкія і антыкаталіцкія выданьні. Кніга «Война по законам подлости» — антысэміцкая. Яе вокладка прымушае звяжаць на сябе: д'ябал у акулярах спрабуе расьсячы поцiск дзьвюх рук, што сымбалізуюць саюз беларускага і расейскага народаў. Самога д'ябла карае анёл.

Д'ябал, натуральна, — увесь габрэйскі народ, а анёл — А.Лукашэнка. Прадмова да кнігі заклікае: «Помогайте своему народом избранному президенту Александру Григорьевичу Лукашенко!»

Кніга дае простыя адказы на ўсе тыя пытаньні і праблемы, зь якімі беларусы сутыкаюцца ў сваім штодзённым жыцьці, растлумачвае, адкуль бяруцца нашыя цяжкасьці эканамічнага, сацыяльнага, палітычнага характару, называе галоўную сілу, якая замінае беларусам жыць забясьпечана й годна.

«Разрушение Советского Союза и приближающаяся катастрофа России — только часть мирового заговора воротил еврейского финансового капитала и политиканствующих пророков талмудического иудаизма».

«В Талмуде излагаются пути и средства истребления других народов и завоевания мирового господства».

«Факт, что в Нью-Йорке и его окрестностях из опасения «осквернить» иудейских потребителей мяса никакого другого, кроме кошерного, не продают вовсе и не подают в ресторанах... Неиудейское население этого города, число которого в несколько раз превосходит число живущих в нем иудеев, должно подчиняться воле меньшинства и есть то, что едят их «господа».

«Ритуальные убийства не миф, но действительно случаются среди иудейской секты хасидов».

«Фашисты планировали уничтожить только тех евреев, которые не поддерживали сионистские лозунги. Фашистская идеология была взята в готовом виде из сионизма... Гитлер — еврей по матери, Геринг, Геббельс — евреи».

«Народ, исповедующий религию, проповедующую воровство, мошенничество, убийство, избиение целых народов, — является по существу преступным... Евреи не могут быть равными с христианским народом».

«Иудеи, стремясь извлечь максимум выгоды из числа их собратьев, якобы погибших в лагерях Гитлера, раздули цифру своих жертв приблизительно в 20 раз...».

«В центре проблем, поставленных нам сегодня жизнью, стоит только еврейский вопрос»...

Выходзячы з кнігарні «Праваслаўная кніга», па-іншаму пачынаеш ацэньваць усьмешкі патрыярха Алексія і мітрапаліта Філарэта на іхных партрэтах у холе. Вось, аказваецца, у чым справа! Яны, мусіць, раней за іншых даведаліся, якое пытаньне стаіць у цэнтры ўсіх нашых праблем…

Кіраўнікі дзяржавы, што давялі эканоміку да развалу, народ — да галоты, а краіну да міжнароднай ізаляцыі, ведаюць запаветнае рашэньне ўсіх праблем — поўнае зьнішчэньне габрэяў! Няшмат іх, праўда, ужо засталося. Столькі, колькі ў вайну, ужо ня зьнішчыш. Але ж подзьвіг папярэднікаў не пакідае ў спакоі. Тыя, хто з-за малалецтва не пасьпеў пастраляць на Ямах, папрацаваць «дантыстам» у крэматорыі або проста ўчыніць беспакараны пагром габрэйскае кватэры, прагнуць сатысфакцыі і заклікаюць паўдзельнічаць у гэтым усіх іншых. Бо пакуль яны не здаволяцца, у краіне будзе працягвацца стагнацыя, будуць дагніваць калгасы, не напоўняцца крамы, ня вырастуць заробкі, вакол не засьвеціць сонца і Беларусь не ператворыцца ў багатую, паважаную ў сьвеце краіну.

Таму народ мусіць цешыцца разам з сваім кіраўніцтвам, не пераймацца асабістымі турботамі, а пільна высочваць дзе-якога апошняга тутэйшага лекара ці кампазытара, каб адпомсьціць, нарэшце, за негабрэйскую большасьць Нью-Ёрку, што вымушаная душыцца кашэрным мясам.

Якаў Гутман, прэзыдэнт Сусьветнага згуртаваньня беларускіх габрэяў







Сьв. Памяці

## Др. Лявон Трусэвіч

трагічна загінуў у пачатку травеня гэтага году ў Тэмпа, Флёрыда, ЗША. Там-жа і пахаваны.

Нябожчык Лявон нарадзіўся на Наваградчыне і пражыў на гэтым сьвеце 76 гадоў.

Пакінуў у смутку жонку, сына і дачку з унукамі.

Сьв. памяці др. Лявон быў сталым чытачом нашае газэты і яе фундатарам.

Няхай будзе Яму пухам амэрыканская зямля.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!






Студэнцкі хор Рыгора Шырмы ў Вільні, 1937 (?)

## Арол і пралескі

Канстанцін СКУРАТОВІЧ

**Калі бачыш, як на афіцыйных сумесных мерапрыемствах суседнічаюць дзяржсцягі Беларусі і Расіі, становіцца смешна. Таму што візантыйскі арол на расійскім сцягу як сімвал пераемнасці традыцыяў Усходняй рымскай імперыі зусім не пасуе да збожжава-агароднага сымбаля прэзідэнцкай Беларусі. Бо апошні гэтую традыцыю абвяргае ці імкнецца абвергнуць.**

Але зразумела, што геральдычныя тонкасці не турбавалі Лукашэнку, калі ён прапаноўваў новуюстарую сымболіку на рэферэндум. Ён пераследваў мэты цалкам палітычныя і прагматычныя. Прычым, ня столькі перацягнуць на свой бок большасць электарата. Гэтая большасць была яго, законная. Колькі пазбавіць меншасць (апазіцыю) магчымасці скарыстоўваць дзяржсімволіку для абароны ўласнай дзяржавы, яе незалежнасці. Спачатку гэта атрымалася на ўсе сто. Але сёння афіцыйная сімволіка мае амаль выключна пратакольнае значэнне. Апальная ж, бел-чырвона-белая, аб'ядноўвае амаль усю, а ня толькі нацыянальна свядомую апазіцыю. І чым далей, тым болей.

Тое ж самае з беларускай мовай. Многія, як вядома, супраціўліся яе пашырэнню як адзінай дзяржаўнай мовы, таму што яе вывучэнне патрабавала намаганняў, а дзяржава амаль не клапацілася пра тое, каб гэты працэс стаў незваротным. Але праз пяць гадоў пасля рэферэндуму беларуская мова пашырае кола прыхільнікаў і сферы прымянення. Таму што яна стала мовай супраціву. Зноў жа амаль для ўсіх, нягледзячы на ідэйныя ці іншыя спрэчкі.

Ну і трэцяе пытанне было аб падтрымцы інтэграцыі ў тым выглядзе, як яе разумеў Лукашэнка. Зразумела, што ён і тады ў гэтай справе не надта глыбока разумеў. Але як лозунг моманту інтэграцыя была эфектыўнай. Спачатку. Бо чым далей, тым болей ідэя поўнага яднання станавілася ўсё менш папулярнай. На гэта паўплываў і імідж сучаснай Расіі, і вайна ў Чачні ды многае іншае. Пакуль Лукашэнка за кошт маладой энергіі разпораз абыгрываў Ельцына, усё ішло добра. Але ўжо для Пуціна ён ніякай пагрозы не ўяўляе. Таму Лукашэнку застаецца або мацаваць родную дзяржаву, або здаць уласныя паўнамоцтвы і папрасіцца губернатарам у Табольск. Ды як гэта зробіш?

Падсумоўваючы, можна сказаць, што перамога Лукашэнкі на першым рэферэндуме была дастаткова поўнай, каб стварыць папярэднія ўмовы для яго поўнай паразы. Візантыйская двухгаловая птушка ніколі не надзене на сябе збожжавы вянок.



## КАНСЭРВАТЫЎНА-ХРЫСЬЦІЯНСКАЯ ПАРТЫЯ БНФ, ЯКУЮ ЎЗНАЧАЛЬВАЕ ЗЯНОН ПАЗЬНЯК, ЗАЯВІЛА ПРА СВОЙ ВЫХАД З ПЕРАМОЎНАГА ПРАЦЭСУ З АФІЦЫЙНЫМІ УЛАДАМІ

Як гаворыцца ў заяве Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ, улады не праявілі "ні добрай волі, ні жаданьня праводзіць рэальныя перамовы з палітычнымі партыямі". Цяпер дэмакратычнай Беларусі неабходна сканцэнтравацца на стварэньні народнай улады самакіраваньня -- грамадзкага парлямэнту і грамадзкага ўраду.

## Украіна ня хоча ў Саюз

Ні эканамічных, ні палітычных падставаў для далучэньня Украіны да Саюзу Расіі і Беларусі няма. Пра гэта заявіў 19 траўня ў Кіеве першы намесьнік старшыні Вярхоўнай рады Украіны В.Медзьвядчук.

Як паведаміла агенцтва УНІАН, такім чынам ён пракамэнтаваў меркаваньне старшыні Дзярждумы Расійскай Федэрацыі Генадзя Селязнёва аб магчымым далучэнні Украіны да беларуска-расійскага саюза, выказанае ў Менску на сесіі Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі. Пры гэтым Віктар Медзьвядчук падкрэсьліў: падставаў для далучэння да беларуска-расійскага саюза ва Украіны ня будзе ніколі.

**Падаецца да ведама наш e-mail address:**
**bdigest@iserv.net**

(Працяг з 2-ое бач.)

прасторы скрыжоўваюцца самыя розныя ўплывы", – падкрэсьлівае Адам Мальдзіс. Неадназначны розгалас выклікалі яго ныя словы ў часе адкрыцьця Кангрэсу. Я напомню, закрануўшы праблемы інтэграцыі Беларусі з Расіяй, прафэсар Мальдзіс пажадаў "шчасьця шлюбу беларускай Папялушкі з расійскім Прынцам". Ці азначаюць гэтыя словы Мальдзісаву падтрымку інтэграцыйным працэсам?

Мы тут можам па-рознаму меркаваць, але нам у сёньняшняй рэчаіснасьці трэба захаваць усё-такі здаровы сэнс і бачыць, што калі ня будзе захаваны ў гэтым шлюбе парытэт, раўнапраўе, то ў гэтым страціць ня толькі беларускі народ, але й беларускае чынавенства. Ведаеце, я ўспамінаю адзін выпадак. Калісьці я пайшоў да аднаго чыноўніка сярэдняй рукі, які пачаў мяне пераконваць: "Ну, Вы понимаете, я ведь тоже из деревни, мои сестры в деревне тоже говорят по-белорусски... ну что случится, если мы растворимся". Я яму гавару: "Так, сапраўды генацыд нам, відаць. не пагражае. Але ж Вы зразумейце, што зьнікне й тое крэсла, на якім Вы сядзіце". Ён разгубіўся. Яно й праўда, тады ён застанецца бяз крэсла. Я перакананы, што пры любых інтэграцыйных працэсах мы захаваем сувэрэнітэт, таму што гэта адпавядае й інтарэсам народу, і інтарэсам кіраўніцтва.

Мяркуе прэзыдэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс. У складзе кіраванай ім арганізацыі сёньня каля 650 чалавек з 24 краін сьвету. Гэты Кангрэс, на жаль, праходзіць без удзелу нямецкіх славістаў – яны матывавалі сваю адмову палітычнай сытуацыяй у Беларусі. Зрэшты, гэта адзіны, калі так можна сказаць, дэмарш. Людзі, якія працуюць у абсягу беларусістыкі, радыя магчымасьці кожнага кантакту зь Беларусьсю. (?!)

У беларускім духоўным гімне "Магутны Божа" ёсьць такія словы: "Дай спору ў працы, штодзённай, шэрай". Вось мы павінныя думаць пра штодзённую шэрую працу дзеля аднаўленьня й гістарычнай спадчыны, і пашырэньня беларускай культуры ў сьвеце... І калі ў далёкай Японіі выходзіць японска-беларускі, беларуска-японскі слоўнік, калі ўва Ўкраіне выходзіць падручнік беларускай мовы для ўкраінцаў, калі ў Вугоршчыне выходзіць гісторыя Беларусі павугорску, калі ў Францыі выходзіць гісторыя беларускай культуры й фактычна падручнік па культуралёгіі па-францускu, калі ў Злучаных Штатах Амэрыкі выходзіць кніжка Вітаўта Кіпеля "Беларусы ў ЗША" па-ангельску, калі апошнім часам амаль кожны месяц у Польшчы, у ЗША, у Германіі выходзяць кніжкі пра Беларусь, то гэта сьведчыць пра цікавасьць да нас...